3 красавіка 2015 | № 13 (430)

# Новы час

novychas.info

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

**Футбол і паліталогія**

стар. 4

**5 ПАЛЁТЫ ПА-НАД ВАЙНОЙ**

Вайна падзяліла гэту сям'ю фізічна. Ужо больш за год брат і сястра не могуць абняць адзін аднаго. Але духоўна яны разам...

**11 ЛЁС ПАДАРАВАЎ ЯГО СІНГАПУРУ**

Лі Кван Ю — чалавек, які стварыў нацыю там, дзе яе не было, і пераўтварыў былую калонію ў квітнеючую дзяржаву



**6 ЗІНАІДА ТАРАСЕВІЧ: ПРА КУРАПАТЫ Я ДАВЕДАЛАСЯ Ў 1946 ГОДЗЕ**

Старшыня Беларускай асацыяцыі ахвяраў палітычных рэпрэсій Зінаіда Тарасевіч нарадзілася ў ГУЛАГУ ў 1937 годзе і толькі ў 1945-м вярнулася з бацькамі на радзіму продкаў

**15 ТРЫ ВАЙНЫ ДВУХ БРОНЕЦЯГНІКОЎ**



# Прывітанне ад Міхаіла Гарбачова

## Мы вяртаемся ў гарбачоўскія часы, але не ў «перабудову і галоснасць», а ў эканамічную стагнацыю



Сяргей ПУЛЬША

Напрыканцы сакавіка буйнейшыя «флагманы індустрыі», як іх называлі ў савецкія часы і як іх называе Аляксандр Рыгоравіч, заявілі пра спыненне вытворчасці і перавод сваіх працоўных на 2/3 аплаты заробку: акурат як у апошнія гады «гарбачоўшчыны». З 27 сакавіка па 6 красавіка галоўны канвеер спыніў МАЗ. З 27 сакавіка да 6 красавіка часткова не працуе МТЗ. З 26 сакавіка па 1 красавіка «ў адпачынку» бабруйскі завод масавых шын, да 6 сакавіка — «Магілёўтрансмаш».

Такая сітуацыя — па ўсёй краіне. Апошнім часам многія прадпрыемствы пераводзяцца на скарочаны працоўны тыдзень або вымушаюць рабочых пісаць заявы на адпачынкі за свой кошт. Толькі за пачатак сакавіка такія сігналы паступалі з «Гомсельмашу», Асіповіцкага завода аўтамабільных агрэгатаў, Светлагорскага завода жалезабетонных вырабаў, Бабруйскага завода дэталяў і агрэгатаў, згаданых «Магілёўтрансмашу» і МТЗ, «Строммашыны», «Гомельдрэва», Мінскага падшыпнікавага завода, і нават з Беларускай чыгункі і ААТ «Віцебскія прадукты». А пра колькі такіх прадпрыемстваў мы не даведваемся, бо людзі з іх у інтэрнэт не пішуць?

Да чаго гэта прывяло ў гарбачоўскія часы, мы выдатна ведаем: сто тысячаў рабочых на вуліцах Мінска і агульнанацыянальны страйк па ўсёй краіне.

Ці чакаць народных узрушэнняў зараз? Хутчэй, не. Справа ў тым, што сама па сабе адсутнасць працы нікога не хвалюе. Наадварот, наш народ любіць халяву. І калі за «прастой» плоцяць хоць маленькія, але грошы, гэта рабочымі толькі вітаецца. Пра гэта кажа і Сяргей Антончык, у 1991-м, — адзін з лідараў рэспубліканскага страйкаму. Паводле яго слоў, страйкі распачыналіся не з-за стагнацыі прадпрыемстваў, а з-за немагчымасці «накарміць народ».

«Па-першае, у канцы Савецкага Саюза ўлады не маглі падтрымліваць «сацыяльны кантракт» з людзьмі. Зараз у рэжыму ёсць магчымасць браць крэдыты, затыкаць дзіркі, плаціць грошы. Па-другое, у той момант таксама грошы невялікія плацілі, але на гэтыя грошы не было чаго набыць, нават па існаваўшых тады талонах і купонах. Зараз крамы пакуль што поўныя тавараў, і аб дэфіцыце ці талонах размова нават не ідзе. Акрамя таго, сацыяльны выбух магчымы, калі аслабляецца цэнтральная ўлада. У 90-я гады было адмоўнае стаўленне людзей да ўлады, ёй верыла можа быць працэнтаў толькі пяць насельніцтва. Зараз, калі ўзяць сацапытанні, хоць палова, але давярае ўладзе», — кажа Антончык.

Па ягоным меркаванні, да страйкаў нам яшчэ далёка. «Лакальныя выхады могуць быць: цэх застрайкаваў, бо не плацяць заробак. Але для агульнанацыянальнага ўзрушэння павінен быць даволі працяглы час эканамічнай стагнацыі — год, два, тры. Тады, можа быць, сітуацыя і будзе нагадваць гарбачоўскія часы», — лічыць Антончык.

Што трэба рабіць, каб гісторыя не паўтарылася? Як ні дзіўна, тое, што абяцаў Аляксандр Рыгоравіч падчас прэзідэнцкай кампаніі 1994 года, — «запусціць заводы». Пытанне толькі ў тым,




**У краіны — $40 мільярдаў пазыкаў**

як іх запусціць, калі зробленая прадукцыя зусім не прадаецца?

Нічога складанага ў тым, каб «запусціць заводы» няма, і ўсё гэта мы ўжо праходзілі, кажа эканаміст Леанід Заіка. «Час усё ж адрозніваецца ад гарбачоўскага — зараз ёсць нейкі рынак, ёсць канкурэнцыя і ёсць класічны крызіс. У гарбачоўскі час руйнавалася краіна, ішоў «распіл уласнасці», гэта некалькі іншая канфігурацыя. Зараз жа мы ў сітуацыі класічнага эканамічнага крызісу. А таму зараз і задача, можна сказаць, класічная, цалкам простая і натуральная: правесці рэканструкцыю, рэструктурызацыю сваіх прадпрыемстваў і выпускаць прадукцыю, якая патрэбная рынку», — кажа Заіка.

Па ягоных словах, для інжынераў, маркетолагаў і тэхнолагаў гэта задача простая, — калі яны, канешне, прафесіяналы. «Інжынераў трэба насіць на руках, каб яны маглі ствараць новую прадукцыю і правесці дыверсіфікацыю вытворчасці, а рабочым — засучыць рукавы», — лічыць эканаміст.

Але і сам Заіка зазначыў, што ў краіны — $40 мільярдаў пазыкаў. Дык дзе ж узяць грошы на мадэрнізацыю вытворчасці?

«Ёсць два метады вядзення вытворчасці. Гэта амерыканскі метад, калі вызначаецца задача і шукаюцца грошы на яе вырашэнне. Амерыканцы сказалі: «Нам трэба паляцець на Месяц». І знайшлі пад гэта 40 мільярдаў долараў. А ёсць японскі метад, калі стаўка робіцца не на грошы, а на чалавечы капітал: на веды, на інтарэс людзей, прафесіяналізм і іншае. Таму я і кажу: насіце на руках сваіх інжынераў, тэхнолагаў, маркетолагаў. Вось дзе ваш капітал, які здольны вырашыць праблемы прадпрыемстваў. А браць грошы і ўпяндзюрваць іх ва ўсялякае глупства — гэтым хай займаюцца губернатары», — патлумачыў Заіка.

Так што ў нас пакуль ёсць шанец не давесці краіну да гарбачоўскай рысы. Важна, каб мы ім скарысталіся.

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### СВЕТЛАГОРСК. Ляшэнка скардзіцца на медыкаў

**Грамадскі актывіст са Светлагорска Юрый Ляшэнка 1 красавіка звярнуўся ў раённы суд са скаргай на медыкаў, што затрымалі яго на пікеце і адвезлі ў шпіталь.**

Раней Юрый Ляшэнка звяртаўся са скаргамі да начальніка ўправы аховы здароўя Гомельскага аблвыканкама і ў Міністэрства аховы здароўя, але там палічылі дзеянні падначаленых медыкаў правамернымі. Актывіст лічыць, што ў дадзеным выпадку ідзе размова пра выкарыстанне медыцынскіх работнікаў у палітычным пераследзе грамадзян.

Нагадаем, 25 лістапада Ляшэнка планаваў правесці на цэнтральнай плошчы Светлагорска пікет, каб звярнуць увагу грамадскасці на парушэнне правоў людзей з абмежаванымі магчымасцямі. Але да яго знянацку пад'ехала «хуткая», супрацоўнікі якой забралі актывіста разам з вазком (ён інвалід 1-й групы). У прыёмным пакоі яму зрабілі нейкія ўколы. Потым прыйшоў міліцыянер, які склаў пратакол за несанкцыянаваны пікет, за што Ляшэнка быў пакараны штрафам у 2 базавыя велічыні.

«Я ўпэўнены, што супрацоўнікі ўстановы аховы здароўя былі задзейнічаны ў палітычным пераследзе пры рэалізацыі з майго боку сваіх неад'емных грамадзянскіх і палітычных правоў. Я хачу атрымаць адказы на пытанні, хто і на якой падставе выклікаў да мяне на плошчы хуткую дапамогу, даў загад медыкам супраць маёй волі адвезці мяне ў стацыянар, дзе мне супраць волі ўкалолі невядомыя ін'екцыі», — напісаў у суд Юрый Ляшэнка.

### БРЭСТ. Праверыць будаўніцтва на гісторыка-ахоўнай тэрыторыі

**Нагодай для звароту ў гарадскую пракуратуру кіраўніка абласной арганізацыі БСДП (Грамада) Ігара Маслоўскага сталі будаўнічыя работы і пракладка інжынерных збудаванняў у мемарыяльным комплексе «Брэсцкая крэпасць-герой».**

Гэтыя работы звязаныя з планамі па будаўніцтву ў мемарыяле моладзевага патрыятычнага цэнтра БРСМ, а таксама гатэля, які мае намер узвесці расійскі інвестар. Паводле аўтара звароту, у БСДП няма адмыслоўцаў у справе будаўніцтва на тэрыторыі гісторыка-культурнага аб'екту, які ахоўваецца дзяржавай, аднак з аналізу зваротаў грамадзян, уласнага візуальнага назірання, публікацый у СМІ можна зрабіць высновы наконт неабгрунтаванасці цяперашніх будаўнічых прац. У прыватнасці, ужо сплавана вялікая колькасць дрэваў, само будаўніцтва вядзецца без належных папярэдніх археалагічных даследаванняў (чалавечыя парэшткі ў адкрытым выглядзе знаходзяцца на месцы работ), а сістэма каналізацыі пракладваецца непасрэдна ў раку Мухавец.

«Мы просім пракуратуру праверыць дадзеныя факты на прадмет парушэння заканадаўства і вынесці адпаведнае прадпісанне па іх ліквідацыі, а пры неабходнасці распачаць крымінальную справу і прыцягнуць да адказнасці вінаватых», — адзначыў Ігар Маслоўскі.

### БАРАНАВІЧЫ. Забаронены чарговы пікет

**Баранавіцкі гарвыканкам забараніў прафсаюзнаму актывісту Рыгору Грыку пікет пад лозунгам «Дзейнасць улады пад грамадзянскі кантроль» супраць парушэння Канстытуцыі і законаў з боку мясцовых чыноўнікаў.**

Гэта стала вядома з ліста, які Грык атрымаў за подпісам намесніка старшыні гарвыканкама Дзмітрыя Касцюкевіча. У адказе паведамляецца, што заяўнік не выканаў усе патрабаванні артыкула 5 закона «Аб масавых мерапрыемствах у Рэспубліцы Беларусь», у прыватнасці, не ўказаў, што будуць прыняты меры па забеспячэнні грамадскай бяспекі і грамадскага парадку пры правядзенні масавага мерапрыемства.

«Лічу, што я выканаў усе патрабаванні закона пры падачы заявы на пікет: заключыў пісьмовыя дамовы з гарадской паліклінікай і ЖКГ, а начальнік ГАУС Герасімовіч В.У. на мой зварот пісьмова паведаміў, што пры атрыманні дазволу на правядзенне мерапрыемства Баранавіцкім гарвыканкамам аддзелам унутраных спраў са мной будзе заключана дамова аб ахове грамадскага парадку. Упэўнены, што мне не дазволілі правесці пікет не толькі таму, што я хацеў выкарыстаць так нелюбімы лозунг дзяржаўных чыноўнікаў: «Дзейнасць улады пад грамадзянскі кантроль», але і планаваў праінфармаваць жыхароў нашага горада пра парушэнне Канстытуцыі і працоўнага заканадаўства, а «слугі народа» ігнаруюць асноўны закон дзяржавы, прымаючы незаконныя і антынародныя акты, указы і законы», — паведаміў Рыгор Грык.

**spring96.org**

# Журналістку аштрафавалі за працу без акрэдытацыі

**Іну Хоміч судзілі 1 красавіка ў Брэсце. 30 базавых велічынь за распаўсюд і выраб прадукцыі СМІ — столькі прыйдзецца заплаціць незалежнай журналістцы Іне Хоміч, якую судзілі 1 красавіка за супрацу з «Беларускім Радыё Рацыя» без акрэдытацыі ў МЗС Беларусі.**

Напярэдадні Іне Хоміч патэлефанавалі з раённага суда і паведамілі, што яна не з'явілася на паседжанне. Судовае паседжанне прызначылі на 1 красавіка праз тэлефон.

Вынік суда не стаў нечаканасцю, распавяла «Радыё Рацыя» Іна Хоміч:

— Штраф у памеры 30 базавых велічынь — гэта 5 мільёнаў 400 тысяч беларускіх рублёў. Паседжанне прайшло хутка. Суддзя Раіса Лабачэўская сказала, што ёсць закон «Аб СМІ», і хочацца ім ці не хочацца, а прыходзіцца ім яго выконваць. Я апелявала да таго, што Канстытуцыя без абмежаванняў дазваляе грамадзянам Рэспублікі Беларусь збіраць і распаўсюджваць інфармацыю. Ну, але закон пра СМІ ў нас, аказваецца, больш шануецца, чым Канстытуцыя.

Па падліках ГА «БАЖ», у 2015 годзе па стане на 1 красавіка паводле арт. 22.9 КаАП суды шэсць разоў штрафавалі незалежных журналістаў: Іну Хоміч, (Брэст, 30 базавых), Алеся Ляўчука (Брэст, 21 базавая), два разы — Аліну Літвінчук (Брэст, 30 базавых і 40 базавых), Тамару Шчапёткіну (Бяроза, Брэсцкая вобласць, 40 базавых) і Ларысу Шчыракову (Гомель, 20 базавых).

**eurobelarus.info**

# Чаму за бел-чырвона-белыя сцягі караюць, а за савецкія — не?

**Віцебскі праваабаронца Павел Левінаў патрабуе знайсці і пакараць гандляроў сцяжкамі СССР.**

Ён даслаў заяву на імя начальніка УУС Віцебскага аблвыканкаму і паведаміў пра факты неадназовага з'яўлення невядомых асобаў з чырвонымі сцяжкамі каля гандлёвага цэнтру «Эвіком».

Да заявы Павал Левінаў прыклаў фатаздымкі хлопца і дзяўчыны, якія 20 і 25 сакавіка парушалі грамадскі парадак — заміналі праходу мінакоў, чапляліся да іх з прапанovамі набыць сімволіку былога Савецкага Саюза, а таксама дэманстравалі свае грамадска-палітычныя погляды, паказваючы паперку са словамі: «Народжаны ў СССР».

На думку праваабаронцы, дзеянні невядомых падпадаюць пад адміністрацыйны артыкул 23.34 — арганізацыя і правядзенне несанкцыянаванага масавага мерапрыемства.

«Хлопец і дзяўчына, якія 20 і 25 сакавіка знаходзіліся на вуліцы Церашковай, каля гандлёвага цэнтру «Эвіком», яўна выказвалі свае грамадска-палітычныя інтарэсы. Можна сказаць, што гэта было пікетаванне з выкарыстаннем сцягоў, не зарэгістраваных ва ўстаноўленым парадку. Больш за тое, яны заміналі руху мінакоў. Міліцыя мусіць адрэагаваць адпаведным чынам на гэтае правапарушэнне і пакараць вінаватых — бо караюць жа ў нас за бел-чырвона-белыя сцягі. Высветліць асобы пікетоўцаў, я думаю, няцяжка: я дасылаю начальніку абласнога УУС фатаздымкі з інтэрнэту, а таксама зробленыя мной і маімі сябрамі».

**Няхай разбіраюцца, бо закон павінен працаваць аднолькава ў дачыненні да кожнага грамадзяніна**

Павал Левінаў падкрэслівае, што распаўсюднікі савецкіх сцяжкоў не хаваюцца, дзейнічаюць адкрыта, з'яўляюцца каля «Эвікома» часта і нават фатаграфавацца не бянтэжацца. Толькі не размаўляюць — паказваюць знакамі, што глуханямыя.

Праваабаронца просіць, каб начальнік абласной міліцэйскай управы ўзяў гэтую справу пад уласны кантроль і накіраваў яе для разбору сваім падначаленым — у Кастрычніцкі райаддзел міліцыі:

«Няхай разбіраюцца, бо закон павінен працаваць аднолькава ў дачыненні да кожнага грамадзяніна. Вызначыць асобы прыхільнікаў СССР і адпаведнай сімволікі няцяжка: змог жа начальнік аддзелу аховы правапарадку Чыгуначнага РАУС маёр Аляксандр Рыбакоў вызначыць удзельнікаў знакамітай фатасесіі з птушкамі і клеткамі. Журналістаў і актывістаў вызначылі таксама па фатаздымках у інтэрнэце, і маёр Рыбакоў склаў на кожнага пратакол за ўдзел у несанкцыянаванай акцыі. Хоць у іх нават сцягоў не было, толькі папяровыя клеткі ды птушкі-арыгамі, — і то міліцыя, а потым і суд вырашылі, што мы дэманстравалі грамадска-палітычныя інтарэсы... Вось людзі з савецкай сімволікай пэўна гэта робяць!»

Спадар Левінаў просіць праінфармаваць яго пра ход расследавання справы. Тым больш што распаўсюд савецкіх сцяжкоў абурае гараджан. Гэтаксама як і навязлівасць распаўсюднікаў: хлопец і дзяўчына падпільноўваюць мінакоў, торкаюць у рукі сцяжок, а потым паказваюць паперку, дзе напісаны кошт — 20 тысяч рублёў. Амаль ніхто не купляе — аддаюць сцяжкі назад, даведаўшыся, што гэта не падарунак.

**Радыё «Свабода»**

# Эксперыментальная пляцоўка для закона «Аб дармаедах»

**Згодна з пастановай беларускага ўрада, на Гродзеншчыне цягам шасці месяцаў у эксперыментальным парадку ўводзіцца ў дзеянне закон «Аб стымуляванні занятасці грамадзянаў», які ў народзе атрымаў назву закон «Аб дармаедах».**

Калі цягам гэтага часу эксперымент дасць станоўчыя вынікі, закон будзе ўведзены на тэрыторыі ўсёй краіны. Прыпамежная Гродзеншчына не выпадкова абраная месцам правядзення эксперыменту: тут назіраецца адзін з самых высокіх узроўняў беспрацоўя па краіне.

Аднак, як лічыць намеснік начальніка ўпраўлення па працы, занятасці і сацыяльнай абароне Гродзенскага гарвыканкама Жанна Краўцова, працоўных месцаў на ўсіх наўрад ці хопіць:

— Будзе павелічэнне рэгістрацыі асобаў як беспрацоўных. Выйдуць на рынак доўгі час непрацуючыя грамадзяне. Можна сказаць, што беспрацоўныя — гэта тавар. І як ён сябе прыпаднясе прадаўцу, наймальніку, такі будзе і вынік. А дасведчаны наймальнік бачыць, хто перад ім: ініцыятыўны працаўнік ці пасіўны. Таму многае залежыць ад самога чалавека.

Дзеянні закону «Аб спагнанні падатку з дармаедаў» закрануць перад усім непрацуючых жыхароў Гродзеншчыны, якія будуць узятыя на спецыяльны ўлік у падатковых інспекцыях па месцы жыхарства. Кожны з непрацуючых павінен будзе выплаціць дзяржаве штомесячную грашовую кампенсацыю памерам 360 000 рублёў.

**Беларускае Радыё Рацыя**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Не апошняя кашуля

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Беларусы — народ, збольшага, адказны. Калі пазычылі ў кагосьці нешта, апошнюю кашулю здымуць, але расплацяцца. І таму ім больш давяраюць.**

Беларусь 31 сакавіка правяла чарговы і апошні плацёж на суму 75,7 мільёна долараў, завяршыўшы тым самым пагашэнне крэдыту МВФ stand-by ў аб'ёме $3,46 мільярда, прадастаўленага краіне ў 2009–2010 гадах на фоне палітычнай адлігі і сусветнага фінансавага крызісу.

Як сцвярджаюць адмыслоўцы, добрасумленнае выкананне фінансавых абавязацельстваў істотна павышае крэдытную рэпутацыю краіны нягледзячы на тое, што Беларусь не выканала цэлы шэраг узятых на сябе ў рамках праграмы абяцанняў па рэформах і пераўтварэннях. Пагашэнне папярэдняга крэдыту прыкметна ўзмацняе перамоўную пазіцыю Беларусі, якая адчайна марыць атрымаць новы крэдыт МВФ.

Праўда, некаторыя ўжо былыя старшыні Нацбанка казалі, што ў нас няма тэрміновай патрэбы ў крэдыце МВФ. Аднак Масква больш не корміць, а грошы лішнімі не бываюць.

Так, Расія пагадзілася выдаць нам крэдыт у $110 мільёнаў, і, як паведаміў «Інтэрфакс», Беларусь нават ужо выканала ўнутрыдзяржаўныя працэдуры па пагадненні пра расійскі крэдыт. Але, па-першае, гэта ў 20 разоў менш, чым мы прасілі, па-другое, гэта крэдыт у расійскіх рублях і, па трэцяе, ён яшчэ не прыйшоў. Як кажа той жа «Інтэрфакс», «паступленне сродкаў расійскага дзяржаўнага крэдыту ў бюджэт Беларусі чакаецца ў бліжэйшыя дні».

Але што такое «бліжэйшыя дні»? У мінулым годзе Лукашэнка дамовіўся з Пуціным пра крэдыт, які таксама павінен быў прыйсці «бліжэйшымі днямі». Беларусь чакала гэтыя грошы паўгода, і ў выніку іх прыйшлося адразу ж вярнуць, каб пагасіць запазычанасць перад расійскім банкам ВТБ.

Кажуць, Маскву можна зразумець — у расійцаў у саміх крызіс, грошай не хапае, і гэтак далей. Насамрэч — не. Зразумець іх можна ў тым выпадку, калі яны аднязначна скажуць: «Мы стаміліся фінансаваць Беларусь, і ўжо больш не можам гэтага рабіць, у нас ёсць іншыя інтарэсы». Бо як інакш патлумачыць, што Беларусі — $110 мільёнаў у крэдыт, а Кіргізіі — удвая больш, і беззваротна, то бок дарма?

У якасці «тэхнічнай дапамогі», для падрыхтоўкі да ўступлення ў Еўразійскі эканамічны саюз, Расія выдзеліць Кіргізіі $200 мільёнаў — адпаведнае пагадненне падпісалі намеснікі міністраў фінансаў Расіі і Кіргізіі Сяргей Сторчак і Мірлан Байганчокаў у Бішкеку ў аўторак. За кошт сродкаў Расіі будзе зроблена добраўпарадкаванне межаў Кіргізіі, мадэрнізаваны і створаны лабараторыі, неабходныя для забеспячэння мытнай ачысткі тавараў і праходжання імі санітарна-ветэрынарнага кантролю.

«У далейшым гэтая праца будзе працягнутая. Спадзяемся, што дадзеная дапамога разам з дапамогай, якая ў бліжэйшы час павінна паступіць з Казахстана, палегчыць нашым партнёрам прыстасаванне да ўмоваў ЕАЭС», — адзначыў Сторчак.



**Як патлумачыць, што Беларусі Пуцін дае $110 млн. у крэдыт, а Кіргізіі ў той жа час — удвая больш, і беззваротна, то бок дарма**

Такім чынам, «грошы ў абмен на пацалункі» зараз атрымлівае не Беларусь, а Кіргізія. Можна парадавацца за кіргізаў, а самім вучыцца зарабляць. Балазе, досвед маем.

Як паведаміў кіраўнік дэпартамента гандлю і паслуг Масквы Аляксей Немярук, ля сценаў Крамля ў продажы з'явіліся не толькі «беларуская вустрыцы», але і «беларускія мандарыны». «Мы сапраўды бачым, што гэтая прадукцыя паступае», — распавёў Немярук журналістам у аўторак. На ўдакладняючае пытанне журналістаў, кантрабанда гэта ці не, маскоўскі чыноўнік адказаў: «Кантрабанда, якая ідзе з Беларусі. Рээкспарт». І прызнаўся, што Маскве складана абмежаваць пастаўкі такіх тавараў.

Праўда, пытанне, каму зрабілася кепска ад таго, што ў Маскве ёсць вустрыцы і мандарыны, застаецца адкрытым. З аднаго боку, не было б беларускіх вустрыц — былі б казахстанскія. А не было б і казахстанскіх — не было б ніякіх. У такія ўмовы Расія паставіла сябе сама.

І хай скажуць «дзякуй», што ім у абмен на грошы прапанавалі хаця б мандарыны. Бо мы ўмеем рабіць грошы проста з паветра.

Вось, напрыклад, у красавіку-траўні будзе абвешчаны конкурс на распрацоўку ў Беларусі не чаго-небудзь, а радовішчаў нафты! Як паведаміў начальнік упраўлення па геалогіі Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя рэспублікі Уладзімір Варакса, у мінулым годзе быў абноўлены пералік аб'ектаў, прапанаваных для перадачы ў канцэсію. «Упершыню інвестарам прапанавана два канцэсійных участка для пошуку і, у выпадку выяўлення, распрацоўкі нафтавых радовішчаў», — адзначыў ён. Паводле слоў спецыяліста, гаворка ідзе пра Пазнякевіцкую (Ельскі раён) і Акуліцкую (Нараўлянскі раён) пляцоўкі.

То бок, спадарства, спачатку купіце канцэсію на пляцоўку. Раптам вы там знойдзеце нафту? Калі знойдзеце, можаце распрацоўваць, а калі не — то выбачайце. Канешне, мы там ужо шукалі, — і ў часы СССР, і ў часы перабудовы, і не знайшлі нічога, што магло б быць выкарыстана ў прамысловых маштабах. Але, можа, мы кепска шукалі, а вам пашанцуе больш? Чым не «развадзілава»?

Але мы не толькі можам зарабляць, мы можам яшчэ і эканоміць. Эканоміць мы будзем на заробку кіраўнікоў. З 1 красавіка (і гэта не жарт) змяняецца парадак устанаўлення каэфіцыента суадносін сярэдняй заработнай платы кіраўнікоў арганізацый незалежна ад формы ўласнасці і сярэдняй заработнай платы па арганізацыі ў цэлым.

Раней памер каэфіцыента не мог перавышаць 8. Новымі нормамі прадугледжваецца залежнасць памеру каэфіцыента ад перавышэння тэмпу росту прадукцыйнасці працы над тэмпам росту заработнай платы. Калі па выніках квартала тэмп росту заработнай платы перавысіць тэмп росту прадукцыйнасці працы, то кіраўніку арганізацыі варта ўсталяваць каэфіцыент не больш за 4 уключна з першага чысла месяца, наступнага за справаздачным кварталам.

То бок, зараз дырэктар адказвае за тое, каб «пусты» заробак не выплачваўся. Улічваючы «вымушаныя адпачынкі» нашых прадпрыемстваў, сітуацыя будзе цікавая. Адпраўляючы працоўных «на 2/3 заробку», дырэктар зразае заробак яшчэ і сабе. Прынамсі, так павінна быць.

Хутка ў нас з'явіцца шмат вакансій дырэктараў дзяржпрадпрыемстваў.

ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ



## Павел Калаур

**Старшыня Нацбанка вырашыў, што мы канчаткова выбраліся з крызісу.**

«Важна далей працягнуць палітыку зніжэння працэнтных ставак, таму што стаіць задача пашырэння даступнасці крэдытавання юрыдычных асоб у першую чаргу, і, безумоўна, Нацбанк і банкаўская сістэма разам з урадам прымаюць адпаведныя рашэнні па зніжэнні працэнтных ставак. У той жа час яны застаюцца станоўчыя ў рэальным выразе, то бок больш за ўзровень інфляцыі», — сказаў Калаур на дакладзе ў Лукашэнкі.

Паводле яго слоў, уладам у 1-м квартале атрымалася «ў цэлым» стрымаць інфляцыю ў рамках абноўленага прагнозу (18–20% па выніку года). «У цэлым гэта дае аснову для таго, каб у першым паўгоддзі можна было пашырыць крэдытаванне эканомікі і зрабіць крэдыты больш даступнымі», — сказаў кіраўнік Нацбанка РБ.

Гэта значыць, што да выбараў можна надрукаваць грошы і аддаць іх непрацуючым заводам. Але ў такім разе пасля прэзідэнцкіх выбараў нас чакае чарговая дэвальвацыя.



## Яўген Васьковіч

**Палітвязню дазволілі другое кароткатэрміновае спатканне з родзічамі.**

Прынамсі, яго маці расказала, што збіраецца 17 красавіка сустрэцца з сынам.

«Гэта будзе кароткатэрміновае спатканне, — паведаміла Рушанія Васьковіч. — Абавязкова перадам Яўгену ўсе прывітанні ад сяброў і знаёмых. Што тычыцца здароўя і самаадчування сына, ён не скардзіцца. Канешне, стамляецца на працы, бо не прывык да фізічнай нагрузкі, але моцна стараецца. З-за недахопу часу, бывае, не можа адказваць на лісты. Нават мне толькі адзін ліст за месяц дайшоў».

У пачатку лютага Яўген ужо меў магчымасць сустрэцца з маці. Тады Рушанія Васьковіч атрымала суткавае спатканне з сынам. Да гэтага маці і сын бачыліся толькі аднойчы за чатыры гады зняволення, напрыканцы мінулага года: яны размаўлялі праз шкло і ў прысутнасці наглядчыка.

Яўген Васьковіч быў асуджаны 18 мая 2011 года паводле ч. 2 арт. 339 (злоснае хуліганства) і ч. 3 арт. 218 (наўмыснае знішчэнне альбо пашкоджанне маёмасці ў асабліва буйных памерах) КК Рэспублікі Беларусь разам з Арцёмам Пракапенкам і Паўлам Сырамолатавым на 7 гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму за спробу падпалу ў ноч на 17 кастрычніка 2010 года будынку Бабруйскага КДБ, у які былі кінутыя бутэлькі з запальнай сумессю. Спачатку адбываў пакаранне ў Магілёўскай калоніі № 15, а 12 кастрычніка 2011 года пераведзены на больш жорсткі рэжым у Магілёўскую турму № 4.



## Дар'я Домрачава

**Усе, хто натхніўся Вялікім крыштальным глобусам біятланісткі, не здолелі яе своечасова павіншаваць.**

Трохразовая алімпійская чэмпіёнка разам з камандай спазніліся на самалёт Вена — Мінск, і таму прылёт Домрачавай і каманды перанеслі на адзін дзень.

Аказваецца, з-за затрымкі рэйса Зальцбург — Вена яны проста не паспелі на рэйс Вена — Мінск, пасля чаго засталіся начаваць у сталіцы Аўстрыі. У сувязі з затрымкай рэйса ўрачыстая сустрэча Дар'і Домрачавай перанеслася на 1 красавіка.

Нагадаем, што Дар'я Домрачава ў расійскім Ханты-Мансійску на Кубку свету па біятлоне заваявала Вялікі крыштальны глобус. Тыднёвы аднаўленчы збор у Аўстрыі быў патрэбны для плаўнага выхаду з сезону, так званай «закаткі». Нашая зборная па біятлоне каталася на лыжах і сноўбордах, ды дзяўчаты проста весяліліся. Дар'я нават пакаталася на лыжах са сваімі пляменнікамі. Зараз у Дашы будзе пару дзён, каб пабачыцца з роднымі і сабраць валізкі для наступнага падарожжа — 5 красавіка ў Цюмені пройдзе штогадовае расійскае шоу «Гонка чэмпіёнаў».

а | Азбука паліталогіі

# Футбол і паліталогія



Сяргей НІКАЛЮК

**«Мы, беларусы, — мірныя людзі». Хто б спрачаўся. Але большасці мірных людзей, паводле іх уласнага прызнання, даводзіцца жыць у шчыльным коле ворагаў.**

Мая сястра — лекар-рэнтгенолаг. Ці магчымыя паміж намі размовы на тэму рэнтгеналогіі? Так, магчымыя, але толькі ў адным рэжыме: яна тлумачыць, я слухаю. Гэтак жа сама ні адзін нармальны чалавек не будзе спрачацца з фізікам-тэарэтыкам наконт базону Хігса.

Узровень падзелу працы сёння такі высокі, што кожны чалавек, які засвоіў за сваё жыццё хоць бы адну складаную справу, можа смела гэтым ганарыцца. Прыгадаем афарызм: «Спецыяліст падобны да флюсу: паўната яго аднабаковая». І ў гэтым няма нічога ганебнага.

Аднак не існуе правіл без выключэння. У футболе і палітыцы разбіраюцца ўсе. Чаму ў шэраг выключэнняў трапіў футбол — зразумела. Зноў спашлюся на сваю сястру. Яна жыве ў Піцеры і, натуральна, заўзее за «Зеніт». Калі яе любімая каманда перамагае, гульня прыносіць ёй задавальненне. Калі прайграе, то ўсе футбалісты ў сіняй форме неадкладна залічваюцца ў шэрагі «слабакоў». Такі вось узровень разумення футбола. Яго цалкам дастаткова для абмеркавання турнірных перспектыў «Зеніта» з суседзямі па лецішчы.

Але чаму ж тады так часта нам сустракаюцца суайчыннікі, здольныя з пенай на вуснах адстойваць свой погляд на палітычныя падзеі? Няўжо палітыка ўладкаваная так проста? Або адначасова з уручэннем атэстатаў аб сярэдняй адукацыі беларусам выдаюць і дыпломы паліталагаў?

Не буду выходзіць за межы «Азбукі паліталогіі», аднак паспрабую растлумачыць другое выключэнне. Ніякай спецыяльнай падрыхтоўкі чытачам для гэтага не спатрэбіцца.

### Палітолаг дзядзька Вася

Усе мы жывем адначасова ў двух сацыяльных колах — у блізкім і далёкім. Блізкае кола складаюць знаёмыя нам людзі. У першую чаргу гэта сямейнікі. Далей ідуць сябры, калегі па працы і «проста» знаёмыя. З кожным з чальцоў блізкага кола мы ўсталёўваем асобасныя стасункі, часам не пазбаўленыя эмацыйнай складнікаў.

Далёкае кола — гэта кола фармальных адносін з не знаёмымі нам людзьмі. Нічога асабістага. Нічога эмацыйнага. Пстрычка выключальніка — і ў пакоі загараецца святло. Гэты цуд я здзяйсняю кожны дзень дзякуючы кантракту з РУП «Мінэнерга», праца якога ў сваю чаргу была б немагчымая без кантрактных адносін са шматлікімі эканамічнымі агентамі. Таму пстрыкаючы выключальнікам, я ўступаю ў адносіны з дзясяткамі мільёнаў людзей, пра існаванне якіх не маю ніякага ўяўлення.

«Звычайны чалавек, — адзначае культуролаг Андрэй Пеліпенка, — як правіла, не любіць канфліктаў і пераменаў. Не разумеючы, як уладкаваны свет за мяжою яго сацыяльна-бытавога кругагляду, мяркуе, што законы і правілы яго «малога быцця» могуць і павінны быць перанесеныя на макраўзровень. Вопыт гісторыі незлічонае мноства разоў відавочна даказваў безгрунтоўнасць і абсурднасць такога падыходу».

Законы далёкага кола дзейнічаюць прынцыпова інакш, чым законы блізкага кола. І праз 50, і праз 100 гадоў спецыялісты ў галіне гуманітарных навук будуць спрачацца пра прычыны распаду СССР. Але спытаеце дзядзьку Васю, чаму адбылася «найвялікшая катастрофа ХХ стагоддзя», і ён, не задумваючыся, пачне загінаць пальцы. Па-першае, таму што гэтыя (далей варта чакаць шэраг эпітэтаў, сярод якіх могуць сустрэцца і нецэнзурныя) сабраліся ў Віскулях...

У дзядзькі Васі нядаўна развалася дачка. Прычына палягае на паверхні: зяць пачаў піць і загуляў. Звычайная гісторыя. Дзядзька Вася на сваім вяку пабачыў такіх гісторый нямала. Ён у людзях разбіраецца, і таму ўпэўнены пераносіць свой жыццёвы вопыт на далёкае кола, мяркуючы, што і там усё адбываецца аналагічным чынам.

Дзядзька Вася пастаянна вымярае падзеі гістарычнага маштабу чалавечай меркай. Ён «ідзе ад жыцця», прытрымліваючыся прыкладу галоўнага персанажа маіх «азбук паліталогіі». Іншай меркі ў дзядзькі Васі няма. Адсюль маніякальнае імкненне даваць маральныя ацэнкі падзеям, да якіх такога кшталту ацэнкі непрыдатныя ў прынцыпе (гэтыя нягоднікі, фашысты і г.д.).

### «Развітанне з Мацёрай»

Ці ёсць сэнс дыскутаваць з дзядзькам Васем наконт праблем, якія знаходзяцца па-за межамі яго блізкага кола? Паспрабаваць, зразумела, можна. Але цешыць сябе ілюзіямі не варта. І справа тут не ў адсутнасці ў нашага героя адпаведных ведаў пра законы функцыянавання далёкага кола. Асветніцтвам тут становішча не выправіць.

Усе катэгорыі далёкага кола (дзяржава, грамадства, закон) з'яўляюцца абстракцыямі. «Закон, — тлумачыць гісторык Аляксандр Ахіезер, — універсальны рэгулятыўны прынцып сталай культуры, які прадугледжвае развіццё лагічнага мыслення, уменне аперываць абстракцыямі і іх канкрэтызаваць, аваладанне мастацтвам інтэрпрэтацыі».

Дзядзька Вася — тыповы прадстаўнік дадзяржаўнай культуры, які ўспрымае дзяржаву ў якасці вялікай сям'і на чале з «бацькам». І ў гэтым ён не самотны. З такіх тыповых прадстаўнікоў і складаецца беларуская «большасць». Гэта яна зладзіла электаральную рэвалюцыю ў 1994 годзе.

Дэмакратыя, рынак — базавыя катэгорыі сталай культуры. Чалавеку дадзяржаўнаму, г. зн. чалавеку з дадзяржаўным тыпам мыслення, імі не авалодаць. Таму спрэчкі пра магчымасць дэмакратычнай альтэрнатывы для Беларусі ў пачатку 1990-х гадоў выглядаюць непераканаўча.

Яе адэпты тлумачаць перамогу «чалавека з народу» памылкамі дэмакратаў. Бясспрэчна, спіс памылак шырокі (з гэтага факту, аднак, не вынікае, што ў ворагаў дэмакратыі спіс памылак быў меншы). Не варта забываць і пра тое, што да лета 1994 хваля празаходняга энтузіязму свой рэсурс у беларускім грамадстве вычарпала, і дэмакраты ва ўспрыманні «большасці» трансфармаваліся ў «дзярмакратаў».

Меў рацыю Гегель: «Усе сапраўднае разумна, і ўсё разумнае сапраўдна». У інверсійным рэжыме (паняцце «інверсіі» разглядалася аўтарам неаднаразова) асобныя адхіленні ад генеральнай лініі гісторыі магчымыя, але толькі на час. Вада, як гаворыцца, дзірачку знойдзе. Гісторыя расійскай дэмакратыі, якая перамагла ў 1991 годзе, гэта яскрава пацвярджае.

У сувязі са смерцю пісьменніка Валянціна Распуціна я на днях перачытаў яго аповесць «Развітанне з Мацёрай». Нагадаю яе сюжэт. У сувязі з будаўніцтвам электрастанцыі на Ангары востраў Мацёра будзе затоплены. Нешматлікія жыхары вёскі з трохсотгадовай гісторыяй успрымаюць перасяленне на «мацярык» як «канец свету». І зразумець іх нескладана. «Большасць» не ў стане адаптавацца да новага жыцця ў пасёлку гарадскога тыпу з электраплітамі і ваннамі, але з прысядзібнымі ўчасткамі ў паўтары соткі.

Тое, што ў рэжыме нон-стоп транслююць расійскія тэлеканалы — гэта развітанне з Мацёрай у цывілізацыйным маштабе. Расійская цывілізацыя, аснову якой складае чалавек дадзяржаўнай культуры, не ўпісваецца ў сучасны свет, што дынамічна развіваецца. Сённяшняя агонія — гэта фінальная стадыя працэсу, які стартаваў яшчэ ў 1917 годзе. І мы ў гэтым працэсе не абыякавыя назіральнікі, а яго непасрэдныя ўдзельнікі.

### Украінскае кіно

Каля 60% беларусаў (дадзеныя НІСЭПД) устойліва падзяляюць расійскую трактоўку падзей на Украіне. Чаму тутэйшы дзядзька Вася такі ўспрымальны да расійскай прапаганды? Ён жа чалавек дадзяржаўнай культуры, а тут суцэльная геапалітыка! Усё проста. Сучасныя СМІ ўмеюць гаварыць з масамі на мове дзядзькі Васі. Вынікі гэтага ўмення адлюстраваныя ў табліцы.

Паводле першага радка нацыянальнага гімна, «Мы, беларусы, — мірныя людзі». Аднак мірным людзям даводзіцца жыць у шчыльным коле ворагаў, але гэта кветачкі. Самыя небяспечныя нашы ворагі — прыхаваныя, унутраныя. Нездарма ж адзіны палітык (АП) пастаянна нагадвае нам пра наяўнасць «пятай калоны» ў краіне.

Сёння мы назіраем пік антызаходняй істэрыі. А пачыналася ўсё з барацьбы з педафіламі ў 2009 годзе. Расійскія СМІ абрынуліся не на абстрактных еўрапейскіх «вычварэнцаў», а на самых сапраўдных забойцаў і гвалтаўнікоў дзяцей, якія пад выглядам усынаўлення вывозілі іх з Расіі. Упаўнаважаны па правах дзіцяці Павел Астахаў зацьміў па папулярнасці многіх тэлезорак.

Абараняць правы ўсыноўленых амерыканцамі расійскіх дзяцей — справа, безумоўна, важная. Калі б не адно «але». Набіраю ў Google «хатні гвалт у Расіі», і ўжо з першай спасылкі даведваюся, што «ў 2013 годзе Следчы камітэт расследаваў больш за 17 тысяч злачынстваў, учыненых у адносінах да дзяцей. 1,5 тысячы дзяцей пацярпелі ад злачынных дзеянняў з боку блізкіх сямейнікаў. Каля 500 дзяцей загінулі ад рук апекуноў або бацькоў». Штосьці я не ўзгадаю, каб выкрывальнік еўрапейскіх педафілаў што-небудзь калі-небудзь выказаў публічна ў абарону правоў расійскіх дзяцей.

Жыццё дзяцей — самае дарагое, што ёсць на свеце. Зразумець гэтую ісціну цалкам здольны чалавек дадзяржаўнай культуры. Тэлепрапаганда лёгка перакінула масток паміж блізкім і далёкім колам. Тым самым яна дапамагла дзядзьку Васю ўсвядоміць сябе спецыялістам у пытаннях міжнароднай палітыкі.

Ці варта пасля гэтага здзіўляцца, што ў сакавіку 2014 года («Крым наш!») адносна снежня 2013 года колькасць прыхільнікаў уваходжання ў Еўрасаюз скарацілася ў Беларусі з 44,6 да 32,9%, а колькасць прыхільнікаў аб'яднання з Расіяй, наадварот, узрасла з 36,6 да 51,5%.

Вось ужо год кінамеханікі з Астанкіна круцяць для беларусаў украінскае кіно. Яны пабудавалі новую рэальнасць, у якой уласныя праблемы заўважаць беларусам становіцца ўсё больш складана.




**ЦІ ЁСЦЬ ВОРАГІ Ў НАШАГА НАРОДА, У НАШАЙ КРАІНЫ?**

| Варыянт адказу | % |
|---|---|
| Наша краіна акружаная ворагамі з усіх бакоў | 14 |
| Самыя небяспечныя нашы ворагі — прыхаваныя, унутраныя | 26 |
| У нашага народа, які стаў на шлях адраджэння, заўсёды знойдуцца ворагі | 20 |
| Навошта шукаць ворагаў, калі корань зла — ва ўласных памылках | 29 |
| Цяжка адказаць/ Няма адказу | 11 |
| НІСЭПД, сакавік 2015 г. | |



Зміцер ГАЛКО

# Палёты па-над вайной

**Вайна падзяліла гэту сям'ю фізічна. Ужо больш за год брат і сястра не могуць абняць адзін аднаго. Але духоўна яны разам. У іх радаводзе ёсць і грэкі, і эстонцы, і данскія казакі. Самі ж сябе яны залічваюць да «ўкропаў».**

Наталля і Аляксей Зорыны — брат і сястра, абодва нарадзіліся і выраслі ў Марыупалі, з дзяцінства ў іх былі вельмі цёплыя сяброўскія стасункі, такімі ж яны застаюцца і цяпер, калі ім ужо за трыццаць. Да вясны мінулага года ім не перашкаджала пастаянна сустракацца і сябраваць сем'ямі тое, што Аляксей жыў у Растове. Балазе ад Марыупаля да Растова ўсяго 180 кіламетраў, якія цяпер ператварыліся ў 1500 — мінімальная адлегласць, каб даехаць з Марыупаля да Растова, абмінаючы акупаваныя тэрыторыі. «Львоў цяпер стаў бліжэйшы да Марыупаля за Растоў», — кажа Кірыл, муж Наталлі.

Таму Наталля дасюль бачыла сваю пляменніцу, 10-месячную Шурачку, толькі на фотаздымках. Не бачылі яе і дзядуля з бабуляй. Сям'я шукае магчымасць сустрэцца дзе-небудзь на нейтральнай тэрыторыі. У якасці такой тэрыторыі, дарэчы, разглядаўся Мінск, аднак аказалася, што танней усё-ткі зладзіць сустрэчу ў Турцыі.



Фота з архіву сям'і Зорыных



**У цяжкую хвіліну ў мяне не стаіць пытанне, да каго звярнуцца па дапамогу або параду, — гаворыць Наталля пра брата**

### «Добра, што ёсць варожыя заходнія тэхналогіі...»

Наталля расказвае, што Аляксей адыграў у станаўленні яе як асобы важную ролю. Нягледзячы на розніцу ва ўзросце — амаль чатыры гады, якая ў дзяцінстве была адчувальнай, ён з маленства прысвячаў ёй багата свайго часу.

«Нам заўсёды было цікава разам. А ў цяжкую хвіліну ў мяне не стаіць пытанне, да каго звярнуцца па дапамогу або параду», — гаворыць Наталля пра брата.

Свой адказ пра адносіны з сястрой Аляксей пачынае са згадкі іхнага бацькі. Якога ён зразумеў толькі гады, калі сам стаў бацькам. Раней, гаворыць ён, бацька яму здаваўся «невыносным проста да ікаўкі».

«Ён мяне пастаянна чым-небудзь грузіў. Казаў шмат розных рэчаў, якія яму здаваліся разумнымі, а мне не надта. І, як правіла, заканчваў свае тырады такімі словамі: будуць у цябе дзеці — ты мяне зразумееш. Стаўшы бацькам, я патэлефанаваў яму і кажу: тата, я цябе нарэшце зразумеў! Я дараваў табе ўсе твае павучэнні і маралі, падчас якіх я шаптаў быў: ды каб ты праваліўся!» — распавядае Аляксей.

Менавіта бацька вучыў брата і сястру трымацца адно аднаго.

«У нас з вамі, з дзецьмі, вялікая розніца ва ўзросце, казаў мне бацька. Я скончуся, мама скончыцца, а вы з Наташай застаняцеся адно ў аднаго адзінымі роднымі людзьмі ў свеце, таму сябруйце! І мы заўсёды сябравалі і адчувалі адказнасць адно за аднаго. Калі мы перасягнулі пэўны ўзроставы парог, і розніца ва ўзросце нівелявалася, ну ўсяго толькі чатыры гады, я пачаў прыслухоўвацца да яе думкі. Па многіх жыццёвых пытаннях вельмі ўважліва, таму што яна сваёй жаночай мудрасцю... мудрая...» — кажа Аляксей пра сястру.

Мой суразмоўца збіваецца, маўчыць, па скайпу чуваць, як ён уздыхае. «...Карацей, гэта катастрофа, што я іх не бачыў так доўга. І як добра, што ёсць варожыя заходнія тэхналогіі, і што мы можам лёгка камунікаваць, інакш давялося б на якім-небудзь дурным перагаворным пункце стаяць у чарзе, крычаць у слухаўку і манеткі кідаць у апарат», — знаходзіць Аляксей нагоду для аптымізму.

### «Каралі лайна і пары»

У Растоў Аляксей прыехаў 18 гадоў таму. Тады, кажа ён, расійскае грамадзянства давалі ўсім, а ў яго ў Растове жыў дзед. Усяго толькі і трэба было — падпісаць у АВІРы заяву, што дзед патрабуе догляду. Прывабіла хлопца магчымасць атрымаць адукацыю ў былым Варшаўскім універсітэце, які меў добрую навуковую школу. Спачатку паступіў на мехмат, потым, спакусіўшыся на запатрабаваную на той час прафесію, перавёўся на факультэт эканомікі. «Па дурасці», — ацэньвае свой выбар Аляксей цяпер. Працаваў у сістэме дзяржкіравання, спачатку на федэральным узроўні, у Кантрольна-рэвізійным упраўленні Мінфіна, пазней перавёўся на муніцыпальны. Досвед знаёмства з расійскай сістэмай дзяржкіравання ў яго атрымаўся негатыўны.

«Кіраўнікі ад падначаленых патрабавалі не імпэту, ведаў і ўменняў, а толькі лаяльнасці. Ужо тады мне было зразумела, што ўся сістэма дзяржкіравання ў Расіі — фікцыя і лухта. Па вялікім рахунку, увесь гэты час мы самі ў сябе пазычалі, цягнулі-цягнулі гуму, і было відавочна, што яна раней ці пазней лопне... Гэта былі тлустыя гады — дарагая нафта, лёгкія грошы, слой глянцу, але ўсім распараджаліся каралі лайна і пары (моўны зварот, ужываецца адносна чалавека, які неабгрунтавана ўявіў сябе важнай персонай. — аўт.), таму і вынік вядомы», — распавядае Аляксей.

### «Цырк з канямі»

Як і брат, Наталля працавала ў дзяржаўных органах, займалася праверкай фінансава-гаспадарчай дзейнасці, толькі ў Марыупалі. Цяпер яна хатняя гаспадыня, адсутнасць працы яе напружвае. Хаця з гарадской адміністрацыі сышла свядома.

«Сышла, калі змяніўся характар працы. Спачатку ўсё рабілася вельмі талкова, мы займаліся карыснай справай, але пасля рэарганізацыі з аптымізацыяй нас адправілі пад крыло іншага ўпраўлення, я адчула, што пачаліся карна-запалохвальныя замовы ад начальства. Такія, проста каб «нахіліць» каго-небудзь непакорлівага. Натуральна, як прыстойны чалавек, я звольнілася», — дзеліцца Наталля сваёй гісторыяй.

Перыяд, калі Марыупаль знаходзіўся нібыта пад уладай ДНР, Наталля характарызуе як «цырк з канямі». Па яе словах, сепаратысцкі актыў, які акупаваў будынак гарадской адміністрацыі, складаўся з дзясятку чалавек, іх можна было пры жаданні «пазногцем раздушыць». А з імі нешта важдаліся, выводзілі з адміністрацыі, потым заводзілі зноў. Усё таму, кажа Наталля, што адміністрацыя была «гатовая легчы пад любога».




### Партрэт «укропа»

У радаводзе Зорыных ёсць і грэкі, і эстонцы, і данскія казакі. Сваіх з Наталляй бацькоў Аляксей ахарактарызаваў так: «Рускія. Якасныя ўкраінскія рускія». Самі ж сябе яны залічваюць да «ўкропаў». Насамрэч, у Марыупалі, дзе этна-культурнае, успадкаванае ўкраінства сустракаецца даволі рэдка, асабліва добра бачна, што «ўкропамі» не нараджаюцца.

Сустракаючыся з самымі рознымі людзьмі, у тым ліку людзьмі розных нацыянальнасцяў, якія зацята падтрымліваюць Украіну, я спрабаваў зразумець, што паміж імі агульнага. Збольшага гэта былі людзі, якія маюць хлеб і да хлеба, тыя, каго прынята залічаць у сярэдні клас. Але на Данбасе мне трапляліся заможныя людзі з Пуціным у галаве і простыя рабацягі — без яго. Тых «укропаў», якія выраслі не з глебы і крыві, а такіх, бадай, большасць, аб'ядноўвалі — шырокі кругагляд і здольнасць крытычна мысліць, пралічваць наступствы дзеянняў, самастойнасць, свабодалюбства ды іншае. Але ёсць адна галоўная рыса. Па гісторыі Наталлі і Аляксея яна якраз добра бачная. Гэта нежаданне дасягаць дабрабыту любым коштам, не зважаючы на заганнасць сродкаў, нежаданне мірыцца з брыдкасцю.

### Пуцін не дасць прапасці

Наталля і Кірыл падрыхтавалі ўсё, каб у выпадку захопу Марыупаля імгненна сабрацца і выехаць разам з сынам, 4-гадовым Іллём. Ілля ведае, што такое вайна. Ён чуў абстрэлы, у іх доме жыў бежанец — доктар з Данецку, у дзіцячым садку яму выдалі адмысловую візітоўку з групай крыві і памятку на выпадак атакі. Хлопчык часта праязджаў праз блокпасты і палюбіў вітаць вайскоўцаў воклічам: «Слава Украіне!» Таму, заўважае Кірыл, праз блокпасты ДНР ехаць ім дакладна нельга.

Аляксей з сям'ёй таксама сядзіць на чамаданах, гатовы з'ехаць. Расію, кажа ён, нічога добрага ў будучыні не чакае. Абсалютная большасць расіянаў падхапілі вірус імперскага шаленства, цалкам шчыра яго ў сабе падтрымліваюць.

«На многіх, такое ўражанне, выраслі скуранкі з маўзерамі. Пасля «крымнаша» людзі перасталі рэфлексаваць, крытычна ўспрымаць інфармацыю, апошнія firewall'ы ўпалі, апошняя інфармацыйная абарона ўпала... Людзям анатамавалі чарапную каробку, цяпер бяры і корпайся ў мозгу чым хочаш. А галоўнае — ім гэта даспадобы! Ім падабаецца, што болей не трэба думаць самім. Яны радыя не несці ні за што адказнасці, а зноўку проста падтрымліваць партыю і ўрад, што б тыя не рабілі. Не хачу жыць у такіх умовах. Украіна — гэта магчымасць выйсця, надзея, тады як Расія — проста тупік», — кажа Аляксей.

Зрэшты, як расказвае Кірыл, які працуе ў фінансавай адміністрацыі марупальскага порта, каля 70% ягоных падначаленых таксама не надта схільныя рэфлексаваць і спадзяюцца на расійскага цара-бацюшку, на прыход ДНР.

Хаця менавіта праз авантуру на Данбасе, распавядае Кірыл, значна знізіўся грузапаток. І пасля перамір'я дасюль не аднавіўся. Можна колькі заўгодна даказваць ім, што калі яны стануць жыць на непрызнанай тэрыторыі, порт проста загібее, цяперашнія праблемы здадуцца кветачкамі... Не, усё роўна яны будуць адмахвацца: «Неяк будзе! Пуцін не дасць прапасці».

### Палёты па-над вайной

Наталля і Кірыл захапляюцца кайтсёрфінгам — палётамі панад вадой. У іх склалася вялікая змяшаная кампанія з украінцаў і расіянаў. Да іх часта прыязджалі аматары кайтсёрфінгу з Растова, бо Таганрогскі заліў не вельмі добра пасуе для гэтага спорту. Наталля распавядае, што многія з іх знаёмых расіянаў тэлефануюць і выбачаюцца за дзеянні Расіі ў дачыненні да Украіны. Яны цяпер не могуць сабрацца разам у сваім улюбёным месцы пад Марыупалем, бо там небяспечна, страляюць, але іхныя сумесныя палёты па-над вадой сталі палётамі па-над вайной...

Падчас гутаркі дома ў Наталлі і Кірыла чатырохгадовы Ілля займаўся самастойна сваімі справамі і толькі аднойчы падбег, каб заспяваць украінскую песеньку. Хлопчык якраз вывучыў яе днём у дзіцячым садочку, які знаходзіцца каля будынку Усходняй мытні. Летам там з'явіліся барыкады ДНР. А неўзабаве — зварот мамаў і бабуляў: «Спадары з ДНР! Калі хоць адзін стрэл прагучыць каля нашага садочку, мы знясем вас разам з вашымі барыкадамі!»

*По травиці зелененькій*
*Я біжу, біжу*
*І промінчик сонечка*
*У руках несу.*
*Подарую ненечці —*
*Хай цвіте завжди.*
*Подарую квіточкам —*
*Хай цвітуть сади.*

TV

## 12 КРАСАВІКА, НЯДЗЕЛЯ

### 1 Беларусь

**07.20** Камедыя «Жаніцьба Бальзамінава» (СССР).
**08.50** Слова Мітрапаліта Паўла.
**09.00** Навіны.
**09.10** «Арсенал». Праграма пра армію.
**09.40** Камедыя «Кухня» (Расія).
**10.45** «Пра ежу!». Кулінарны майстар-клас.
**11.20** XXL WOMAN TV. Жаночы часопіс.
**12.00** Навіны.
**12.10** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**12.35** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**13.05** Таямніцы следства.
**13.40** Каробка перадач.
**14.15** Вакол планеты.
**15.00** Навіны.
**15.15** Твой горад.
**15.30** Кінараман «Дом, у якім я жыву» (СССР).
**17.25** Меладрама «Не было б шчасця 2» (Расія). 1-я - 4-я серыі.



**21.00** Галоўны эфір.
**21.55** Навіны надвор'я.
**22.15** Дыялогі аб цывілізацыі.
**22.45** Меладрама «Аазіс кахання» (Расія).
**00.35** Камедыя «Кухня» (Расія).

### Н

**07.00** «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** «Смешарыкі».
**09.35** «Шалапутныя нататкі».
**09.55** «Пакуль усе дома».
**10.45** «Фазэнда».
**11.20** «Ералаш».
**11.30** «Брэйн-рынг».
**12.40** Горка !
**13.40** «Голас. Дзеці».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Тэорыя змовы.
**17.15** «Рыхт-у-рыхт».
**20.00** Контуры.
**21.05** «Люстэркі». Мастацкі фільм.
**23.25** «Маленькая міс шчасце». Маст. фільм.

### ТВ

**06.00** «Студэнты International». Серыял.
**07.10** «Сардэчна паскардзіцца».
**07.30** Тэлечасопіс «Аўтапанарама».
**08.25** «Дом ля возера». Мастацкі фільм.
**10.15** «Чыстая праца».
**11.00** «Вялікі сняданак».
**11.40** «Добры дзень, доктар!».
**12.15** «Кажан».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.40** «Кажан».
**15.00** Дакументальны праект.
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**17.30** «Горад анёлаў».
**19.30** «Тыдзень».
**20.25** «Маё вялікае грэчаскае лета». Мастацкі фільм.



**22.10** «Дакументальны праект».
**23.55** «Кажан».
**23.00** Масква. Дзень і ноч.
**00.35** «Прыгоды Шэрлака Холмса і доктара Ватсана».

### 2 Беларусь

**06.55** «Аты-баты, ішлі салдаты..». Мастацкі фільм.
**08.30** Турыст.
**09.20** Мультсерыял.
**10.05** Анімацыйны серыял «Пінгвіны з Мадагаскара» (ЗША).
**10.35** Тэлебарометр.
**10.40** «Fitnews». Праграма пра прыгажосць і здароўе.
**11.15** Ваша лато.
**11.50** Латарэя «Пяцёрачка».
**12.05** Я хачу гэта ўбачыць!
**13.15** «Мама - дэтэктыў». Серыял.
**14.45** Дзень Незалежнасці.
**17.20** Comedy woman.
**18.25** Ікра.
**19.15** Суперлато.
**20.05** Кіпень.
**20.25** Тэлебарометр.
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.15** Футбол.
**21.50** «Гаттака» Мастацкі фільм.
**23.45** Вышэй за дах.
**00.15** Мультфільм.

### 3 Беларусь

**07.25** Калейдаскоп.
**07.35** «Размовы пра духоўнае».
**07.45** «Беларускі народны каляндар. Вялікдзень».
**08.00** «Талаш». Гістарычная драма. 1-я - 4-я серыі (Беларусь, 2011 г.).
**11.30** «Подых струн». Музычная праграма. Госць: Міла Скарнякова.
**12.10** «Наперад у мінулае».
**12.35** Хіт-парад. «Сто песень для Беларусі».
**13.30** Калейдаскоп.
**13.40** «Размовы пра духоўнае».
**13.50** «Лёс гігантаў». Аўтамабіль «Масквіч».
**14.15** «Розум і пачуцці». Меладрама (ЗША, Вялікабрытанія, 1995 г.).
**16.30** Сустрэчы на Чырвонай, 4. Акадэмічны хор Беларускага тэлебачання і радыё.
**17.30** Калейдаскоп.
**17.40** «Размовы пра духоўнае».
**17.50** «Культпрасвет».
**18.25** «Падкідыш». Камедыя (СССР, 1939 г.).
**19.35** «Звычайны цуд». Музычны фільм. 1-я серыя (СССР, 1978 г.).
**20.45** Калыханка.
**21.05** «Звычайны цуд». Музычны фільм. 2-я серыя (СССР, 1978 г.).
**22.15** А.М.Астроўскі. «Банкрут». Спектакль Беларускага дзяржаўнага маладзёжнага тэатра.
**00.05** «Культпрасвет».
**00.40** Калейдаскоп.

### 5 Беларусь

**05.05** Баскетбол. НБА. «Кліпэрз» - «Мэмфіс». Прамая трансляцыя.
**07.30** PRO спорт. Навіны.
**08.00** Баскетбол. Адзіная ліга ВТБ. «Цмокі-Мінск» (Беларусь) - ЦСКА (Расія).
**09.40** Футбол. Чэмпіянат Беларусі. 1-ы тур. «Нёман» (Гродна) - «Дынама» (Мінск).
**11.35** Баскетбол. НБА. «Кліпэрз» - «Мэмфіс».
**13.30** Хакей. КХЛ. Фінал. Першы матч.
**15.25** Футбол. Чэмпіянат Англіі. КПР - «Чэлсі». Прамая трансляцыя.
**17.25** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Відэачасопіс.
**17.55** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Манчэстар Юнайтэд» - «Манчэстэр Сіці». Прамая трансляцыя.
**20.00** Тэніс. Турнір ВТА. Чарльстан. Фінал. Прамая трансляцыя.
**22.05** Баскетбол. НБА. «Бостан» - «Кліўленд». Прамая трансляцыя.
**00.25** PRO спорт. Навіны.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.10** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**07.50** «Фільм са страшнаю назваю»: 1 серыя.
**08.25** «Званы Беларусі», дак. фільм.
**09.00** «Сейбіт», дак. фільм.
**09.50** Беларусы ў Польшчы.
**10.10** Два на два (тэледыскусія).
**10.45** Рэпартэр.
**11.10** «Фільм са страшнаю назваю»: 2 серыя.
**11.45** Мова нанова: «Кватэра».
**12.05** «Скрадзеная малітва», дак. фільм.
**12.25** 54 % (публіцыстычная праграма).
**12.45** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**13.25** «Mad Men. Утрапёныя IV», серыял.
**14.15** Відзьмо-невідзьмо.
**14.40** «Архімандрыт», дак. фільм.
**15.35** «Незабыўны красавік», маст. фільм.
**17.05** «Падарожжа на Далёкі Усход: з Берліну ў Токіа», дак. серыял: ч. 4: «Праз Кітай у М'янму».
**17.55** Людскія справы.
**18.30** «Час гонару. Паўстанне», серыял.
**19.20** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**19.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Кастусь Каліноўскі.
**20.00** Эксперт (сатырычная праграма).
**20.25** «Плынь кахання», дак. фільм.
**21.40** Кінаклуб: «Прабачэнне крыві».
**21.50** «Прабачэнне крыві», маст. фільм, 2011 г., Албанія.
**23.40** «Сейбіт», дак. фільм.
**00.35** «Mad Men. Утрапёныя IV», серыял.
**01.25** «Усё прыдумана Богам», дак. фільм.
**02.10** «Таямніцы Дамавіны Гасподняе», дак. фільм.

## Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма купіць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час», і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, афарміўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). **Нашы рэквізіты: рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

**Акрамя таго падпісацца можна ў рэдакцыі і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 930 79 22, Міхась
**Мінск:** (8 029) 178 31 68, Вольга
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
**Гомель** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

БЕЛПОЧТА

ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
(почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ______
(почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ______

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ____________
Время приема ______ ч. _____ мин.
Подпись

## Паважаныя чытачы!

Падпісны кошт аднаго нумара газеты 4500 руб., аднаго месяца — 18000 руб.
**ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА ПАДТРЫМКУ!**
«Новы час» запрашае да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.
**Даведка па тэл: (8 029) 651-21-12.**

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739

УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|---|

Период подписки указывает абонент

Плательщик

Пеня ______
Всего ______

Кассир

Сяргей КАРОЛЬ, СІНГАПУР

# Лёс падараваў яго Сінгапуру

**Лі Кван Ю — чалавек, які стварыў нацыю там, дзе яе не было, і пераўтварыў былую калонію ў квітнеючую дзяржаву.**

Мая нядзельная раніца 29 сакавіка, як заўсёды, пачалася з велатрэку ў спартовым клубе. Але на гэты раз замест дынамічнай сучаснай музыкі трэнер папрасіла нас патрымаць хвіліну цішыні на знак памяці Лі Кван Ю. І дакладна праз хвіліну яна зноўку ўключыла музыку, пад хуткія рытмы якой і пад шоргат колаў нашых ровараў пакацілася раніца.

Гэты эпізод мне падаўся дакладным сімвалам развітання Сінгапура з яго творцам Лі Кван Ю. Развітанне, якое было праскнута сапраўды шчырым, а не афіцыйна-штучным смуткам і было скіравана на працяг спраў, на працяг працы і бізнесу. На працяг жыцця. Як заўсёды.

## Рознымі шляхамі

Хто чытаў мае ранейшыя артыкулы ў НЧ, ведае пра маю павагу да творцы сінгапурскай мадэлі развіцця. Адзін з чыннікаў гэтай павагі грунтуецца на асэнсаванні пэўнага падабенства сітуацый у Сінгапуры і Беларусі.

Абедзвюм краінам бракуе прыродных рэсурсаў, але і тая, і другая знаходзяцца на скрыжаванні трансkантынентальных гандлёвых і ваенных шляхоў: Сінгапур — марскіх, Беларусь — сухапутных. Абедзве краіны, хаця і па розных прычынах, у масавым карыстанні не маюць сапраўды сваёй мовы. Насельніцтва і той, і другой у большасці сваёй прымае мадэль кіравання «зверху ўніз». І нават мае аднолькавую звычку называць першую асобу дзяржавы бацькам.

Як і Беларусь, Сінгапур зрабіўся незалежнай дзяржавай раптоўна, хаця і з розных гістарычных падыходаў. У гісторыі Беларусі быў нацыянальны рух Адраджэння, якога не ведаў Сінгапур. Але большасць насельніцтва (у Сінгапуры, можна сказаць, пераважная большасць), не ўяўляла сябе ў становішчы незалежнай дзяржавы.

Тым не менш Сінгапур амаль адразу стаў на шлях эканамічных і сацыяльных пераўтварэнняў. Краіна зрабілася адной з найбольш заможных у свеце, развітым цэнтрам бізнесу, тэхналогій, а на сёння ўжо — культуры і дызайну.

Тым часам Беларусь, хаця і вабіць сваёй чысцінёй, за дваццаць год дасягнула не болей чым адносна прымальнага ўзроўню выжывання, які, аднак, крытычна залежыць ад геапалітычных звычак усходняга суседа.

## Ідэі і рашэнні

Зразумець гэтую розніцу дапамагаюць галоўныя ідэі кіравання Лі Кван Ю. У пэўным сэнсе яго філасофія можа падацца падобнай да той, што прапагандуе ўрад Беларусі, — цэнтралізаваны баланс паміж



дабрабытам усяго грамадства і асобных яго грамадзян, і пэўны дыктат інтарэсаў большасці над свабодай меншасці.

Вядома, напрыклад, што Лі не вельмі цаніў абсалютную свабоду друку, захаваў сакрэтную службу, замацаваў права прэм'ер-міністра арыштоўваць і трымаць у турме пэўную колькасць чалавек увогуле без судовага працэсу. У прыватнасці, падазраваных крымінальных злачынцаў, віну якіх было цяжка даказаць. Але здараліся і падазроныя па палітычных матывах, асабліва з прыхільнікаў камуністаў. Лі Кван Ю лічыў таксама неабходным захаваць смяротнае пакаранне, асабліва ў адносінах да наркадылераў.

Але ж нейкім чынам кірунак гэтых ідэй у Сінгапуры быў зусім іншым, чым у Беларусі. Гэта ілюструюць некалькі галоўных рашэнняў Лі.

Раптоўна незалежным Сінгапур зрабіўся ў 1965 годзе. Дагэтуль, ад 1957-га, ён бы часткай Малайзіі, але калі там перамаглі нацыяналісты, яны вырашылі выключыць з федэрацыі Сінгапур, дзе большасць насельніцтва складалі кітайцы.

Эканамічная будучыня новай краіны выглядала сумна. Да таго часу горад жыў у асноўным на гандлі паміж суседнімі тэрыторыямі Малайзіі, Індыі, Паўднёвага Кітаю і Інданезіі. Другой крыніцай дабрабыту была брытанская армія, але ў 1971 годзе яна была выведзена з тэрыторыі былой калоніі.

Дарадцы раілі Лі як мага хутчэй уступіць у эканамічны саюз з Малайзіяй і Інданезіяй. Яны не разумелі, як маленькая новая краіна зможа перамагчы гістарычныя наступствы і адна знайсці нейкі іншы шлях.

Але Лі зразумеў, што новыя тэхналогіі ствараюць магчымасці скарыстаць працаздольнасць і дысцыплінаванасць насельніцтва вострава, каб сканструяваць наўпрост працу з карпарацыямі ЗША і іншых развітых краін, а не гандляваць з такімі ж маларазвітымі суседзямі. Пры гэтым улады Сінгапура захавалі за сабой высокі ўзровень кантролю над вытворчасцю праз структуры дзяржаўнага холдынгу, якому належалі акцыі шматлікіх прадпрыемстваў. Але самі прадпрыемствы атрымалі аператыўную свабоду. Паралельна былі створаны ўмовы для прыватных інтарэсаў.

## Помнік каланісту

Па сваіх палітычных поглядах Лі быў сацыялістам і да канца жыцця верыў у неабходнасць стварэння магчымасцяў для кожнага. Але таксама разумеў небяспеку камуністычнага руху.

Асабісты дарадца Лі, галандскі эканаміст доктар Вінземіўс (які, дарэчы, нягледзячы на ўзрост прыехаў на пахаванне), сфармуляваў дзве ўмовы для поспеху: першая — не дапусціць перамогі камуністаў, другая — не дапусціць зносу помніка Стэмфарду Рафэлзу, каланіяльнаму стваральніку Сінгапура.

Сінгапур, з помнікам каланісту ў цэнтры горада, успрымаўся як надзейны фарпост для інвестараў. Яшчэ больш моцным фундаментам для даверу новай краіне зрабілася яе юрыдычная сістэма: Лі, юрыст з дыпломам Кембрыджу, вырашыў захаваць брытанскія інстытуты незалежнага суда і гарантыі маёмасці.

Сістэма дзяржаўнага капіталізму, якую фактычна вынайшаў Лі, была сістэмай адукаванага менеджменту. У прыватнасці, Лі заснаваў дзяржаўную карпарацыю «Тэмасек» (старажытная назва горада), у якую ўвайшлі прадпрыемствы энергетыкі. Урад Лі, замест адміністратыўнага кантролю над цэнамі, кантраляваў іх праз прадпрыемствы энергетыкі.

Праз пэўны час гэтыя прадпрыемствы былі прыватызаваныя, а карпарацыя «Тэмасек» зрабілася дзяржаўным інвестыцыйным фондам.

## Палітычны баланс

У палітычнай сферы Лі пачынаў як сапраўдны левы — з барацьбы за правы прафсаюза мясцовых рабочых супраць каланіяльных прадпрыемстваў. Але, калі пасля незалежнасці прафсаюзы пачалі патрабаваць вялікіх заробкаў пад пагрозай страйку, Лі рашуча выступіў супраць. У тым ліку і праз адміністрацыйны рэсурс.

Але адначасова дапамог прафсаюзам стварыць кааператыўныя прадпрыемствы, якія пачалі зарабляць дадатковыя сродкі і ўкладваць іх у медыцынскія і пенсійныя фонды для працоўных.

Праграма дзяржаўнага будаўніцтва кватэр, якія сінгапурцы могуць набыць, скарыстаўшы свой прыватны пенсійны фонд, зрабіла іх уладальнікамі актываў, каштоўнасць якіх расла адначасова з эканомікай краіны. Гэта аўтаматычна дало грамадзянам ашчадны рахунак, дом, а з тым і зацікаўленасць да ўдзелу ў мясцовым самакіраванні праз асацыяцыі ўладальнікаў.

Лі заўсёды і паслядоўна супрацьстаяў любым памкненням пераўтварэння сінгапурцаў у нацыю нахлебнікаў. Ён наведаў Мальту, якая, як і Сінгапур, страціла прывілеі, звязаныя са знаходжаннем на яго тэрыторыі брытанскага флоту. У якасці кампенсацыі працоўныя Мальты дамагліся ад Брытаніі гарантый на атрыманне зафіксаванай субсідыі кожнаму, незалежна, працуе той ці не.

Дэструктыўны ўплыў, які мела гэта субсідыя на звычкі і характар мальтыйцаў, уразіў сінгапурскага лідара. У сваіх нататках ён запісаў, што ніколі не дазволіць падобнае ў Сінгапуры: «Мы павінны працаваць і зарабляць свой дабрабыт, а не атрымліваць яго ад іншых, ці рызыкуем знішчыць сябе».

## Нацыянальна-рэлігійны баланс

Эканамічным цуд Сінгапура знакаміты на ўвесь свет. Але не меншым цудам можна лічыць тую гармонію, якая ўсталявалася тут ва ўзаемаадносінах трох груп, што складаюць насельніцтва Сінгапура, — кітайскай, малайскай і індыйскай. Будысты, хрысціяне, індуісты і мусульмане жывуць і працуюць побач, паважаюць традыцыі адзін аднаго. Як прыклад: супрацоўнікі майго офісу ніколі не плануюць лятучкі на пяць гадзінаў, калі малайцы-мусульмане маюць малітву.

Так было не заўсёды. У першы год незалежнасці крывавыя канфлікты практаваліся па кітайскім і малайскім раёнах. Здавалася, што было б працэй для лідара, у краіне, дзе 75 адсоткаў кітайцы, кіраваць наўпрост ад іх імя і зрабіць кітайскую мову дзяржаўнай, кітайскія школы асноўнымі, кітайскую культуру дамінуючай.

Але Лі мовай адміністрацыі і адукацыі зрабіў нейтральную англійскую, а ўсім чатыром мовам быў нададзены статус раўнапраўных. Усе школы, у тым ліку кітайскія, падпарадкаваныя культурна нейтральнай сістэме адукацыі. Культурная палітыка Сінгапура патрабуе свабоднага валодання англійскай і роднай этнічнай мовай у якасці другой абавязковай.

Адрозненне дабраахвотнай, пазітыўнай і цывілізаванай накіраванасці сінгапурскай версіі вертыкалі было відавочным і па ўсёй атмасферы тыдня смутку ў сувязі з адыходам у іншы свет стваральніка дзяржавы. Усё было выдатна арганізавана, але не спушчана зверху пад адміністратыўна-прапагандысцкім істэрычным ціскам.

Калі б не 18 сценак памяці, раскінутых па гораду, напаўспушчаныя сцягі і хроніка пяцідзесяцігадовай гісторыі Сінгапура па тэлебачанні, госць гораду наўрад ці здагадаўся, што адбылося нешта надзвычайнае. Усе дні засталіся рабочымі, працавалі крамы, у барах шумелі наведвальнікі, працягваліся канцэрты, спартовыя спаборніцтвы і кіно.

## Смутак і ўдзячнасць

Першыя два дні развітання былі толькі для сям'і. Пасля гэтага труна была ўсталявана ў парламенце. І хаця на развітанне прыйшлі 400 000 чалавек, не было зарэгістравана ніводнага выпадку праблемаў з натоўпам ці істэрыі, накшталт той, што бачылі ў Паўночнай Карэі. Потым лафет з целам Лі і мінімальным кардонам правезлі праз горад. Жалоба была завершана сціплай цырымоніяй прамоваў.

29 сакавіка, у дзень пахавання, амаль усе людзі былі ў чорнай ці белай (кітайскі колер смутку) вопратцы. У прыватных размовах, чатах, лістах у газеты я не заўважыў пампезнасці, прапаганды, ці штучнасці пачуццяў. Мне здавалася, як і ў маім ранішнім спортклубе, што разам з трапічным дажджом Сінгапур ахінула непадробная хваля смутку па чалавеку, які зрабіў нацыю там, дзе яе не было, і карыстаўся ўладай дзеля краіны, а не наадварот.

Напрыканцы цырымоніі, упершыню за 50 гадоў, прагучалі сірэны грамадзянскай абароны. Спыніліся цягнікі метро на станцыях, аўтобусы на вуліцах. Спыніў на імгненне рух увесь горад, з удзячнасцю за свой гістарычны імклівы рух да лепшага гэтаму сапраўды вялікаму чалавеку, якога лёс нейк падараваў маленькаму востраву паміж Індыйскім і Ціхім акіянамі.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### КАЗАХСТАН. Назарбаеў паабяцаў сысці

Японскі сайт «Diplomat» апублікаваў нешта падобнае на стэнаграму з'езда афіцыйнай казахстанскай партыі «Нур Атан», які адбыўся яшчэ 11 сакавіка за зачыненымі дзвярыма. Сабрацца актыву «Нур Атан» давялося пасля таго, як прэзідэнт прыняў рашэнне прызначыць на красавік 2015 года датэрміновыя выбары прэзідэнты Казахстану. Калі верыць тэксту на сайце «Diplomat», з'езд быў вельмі незвычайны. Падчас яго Назарбаеў выступіў з прамовай, у якой заявіў, што мае асабістыя планы на будучыню, якія не звязаныя з палітыкай. Калі верыць Назарбаеву, рашэнне аб датэрміновых выбарах было прынята пад ціскам прэзідэнцкага атачэння, якое баіцца за міжэтнічны мір. Напружанасць у гэтай сферы, па словах Елбасы, не дазваляе давесці да фіналу рэформу, паводле якой уся ўлада пасля Назарбаева будзе перададзеная парламенту. Тэзісы выступу Назарбаева так уразілі прысутных, што яны нават не сустрэлі яго гучнымі апладысментамі, як патрабуе кодэкс казахстанскага вертыкальшчыка. Каментуючы зборы «Нур Атан», «Diplomat» прагназуе сыход Назарбаева з палітыкі, аднак каментатары на казахстанскіх інтэрнэт-форумах слаба вераць у такое развіццё падзей.

**Паводле казахстанскай прэсы**

### СЕРБІЯ. Ці рэабілітуюць галоўнага антыкамуніста?

У Бялградзе зноў пачаўся працэс наконт рэабілітацыі Драгалюба Міхайлавіча, аднаго з лідараў югаслаўскага антыкамуністычнага і антыгітлераўскага накірунку Другой сусветнай вайны. Пасля акупацыі Югаславіі нацыстамі Міхайлавіч стварыў партызанскі рух т. зв. «чэтнікаў», якія змагаліся адначасова як з немцамі, так і з камуністамі. У ліпені 1946 года пасля перамогі камуністаў генерала пакаралі смерцю як калабаранта. Пры гэтым яго пазбавілі ўсіх грамадзянскіх праў і выставілі як здрадніка, які дапамагаў Гітлеру. Менавіта адмавіць добрае імя дзеда патрабаваў унук генерала, які 6 гадоў таму звярнуўся ў суд. Працэс з таго часу павольна ідзе, хаця, па словах юрыстаў, усе дакументы для рэабілітацыі Міхайлавіча даўно гатовыя. Прычына судовага сабатажу ў тым, што Міхайлавіч як прыхільнік канцэпцыі Вялікай Сербіі быў таксама ініцыятарам этнічных чыстак баснійцаў, чарнагорцаў і харватаў, і наўрад ці Бялград хоча мець зараз праблемы з суседзямі з-за лідара «чэтнікаў». Застаецца дадаць, што Міхайлавіч атрымліваў вайсковую адукацыю разам з будучым французскім прэзідэнтам Шарлем дэ Голем.

**Паводле сербскай прэсы**

### ФРАНЦЫЯ. У чаканні канстытуцыйнай рэформы

Калі верыць французскаму штотыднёвіку «Marianne», прэзідэнт Франсуа Аланд прыдумаў, што рабіць пасля паразы сваёй партыі сацыялістаў на сакавіцкіх рэгіянальных выбарах. Нагадаем, што яны закончыліся перамогай правых, і ў тым ліку вярнулі ў палітыку Нікаля Сарказі, чый блок атрымаў пад кантроль большасць дэпартаментаў. Каб не дапусціць паўтарэння падобнага сцэнару праз два гады на прэзідэнцкіх выбарах, Аланд, быццам, плануе шырокую рэформу Канстытуцыі. Такім чынам плануецца, што на пасаду прэзідэнта рэспублікі ў 2017-м павінен балатавацца не адзін кандыдат, а кандыдат і кандыдатка. Адпаведна, пасады прэзідэнта больш не будзе — краінай будуць кіраваць два супрэзідэнты. Аланд робіць стаўку на тое, што партыйныя культуры правых партый пабудаваныя на мужчынскіх забабонах і прынцыпе асабістага лідарства. У выпадку прыняцця новага закону канфлікты сярод апанентаў сацыялістаў непазбежныя, што, быццам, дазволіць Аланду лёгка пераабрацца. Цяжка сказаць, наколькі можна верыць гэтай публікацыі, паколькі яна з'явілася на сайце «Marianne» 1 красавіка.

**Паводле французскай прэсы**

### АРМЕНІЯ. Еўразійская інтэграцыя знішчыць трэці сектар

Лідары армянскага грамадзянскага сектара сцвярджаюць, што наўпроставым следствам уступлення Арменіі ў склад Еўразійскага саюза стаў наступ на правы няўрадавых арганізацый (NGO). У парламент паступілі папраўкі ў закон аб іх дзейнасці, паводле якіх кожная NGO павінна штогод праходзіць фінансавы аўдыт плюс здаваць падрабязную фінансавую справаздачу. Прадстаўнікі Мінюсту атрымліваюць права ўдзельнічаць у пасяджэннях кіраўніцтва NGO. Пакуль што ад няўрадавых арганізацый Арменіі патрабуюць проста падачы падатковай дэкларацыі. Грамадства бачыць у гэтых ініцыятывах руку Масквы. Яшчэ ўзімку адзін з дэпутатаў Дзярждумы заявіў: «Каля 350 няўрадавых арганізацый агітуюць супраць сувязяў Арменіі з Расіяй, выступаючы за прынцыпе жыхарамі рэспублікі еўрапейскіх каштоўнасцяў». Адзінае, што ў такой сітуацыі радуе актывістаў, — дата галасавання ў армянскім парламенце з нагоды гэтых паправак пакуль не прызначаная.

**Паводле армянскай прэсы**




# Усходняя дылема па-польску

Алег НОВІКАЎ

**Упершыню за шмат гадоў тэма ўсходнееўрапейскай палітыкі стала адной з галоўных у дэбатах кандыдатаў па пасаду польскага прэзідэнта. Якія формулы адносін Варшавы з Кіевам, Масквой і Мінскам прапануюцца палітыкамі?**

У Польшчы закончылася рэгістрацыя кандыдатаў на пасаду прэзідэнта, выбары якога пройдуць 11 мая. Найбольш экзатычны прэтэндэнт у кандыдаты — Анна Гродска — сабраць патрэбную колькасць подпісаў для рэгістрацыі не здолела. Самы вядомы польскі транссексуал, дэпутат Сейму, на гэты раз ішла на выбары ад Зялёных.

Затое патрэбную колькасць подпісаў прадставілі ў выбарчую калегію іншыя 11 палітыкаў. У гэтым спісе ёсць знаёмыя беларускай аўдыторыі асобы. Напрыклад, фаварыт выбараў, цяперашні прэзідэнт Браніслаў Камароўскі, блізкі да ўрадавай партыі «Грамадзянская платформа». Думаецца, знаёмая і яго пазіцыя па ўкраінскім пытанні, праз прызму якой фармуецца ўся рэгіянальная дактрына. Камароўскі неадназразова быў у Кіеве, дзе абяцаў украінскім калегам любую падтрымку, акрамя, хіба што, польскага экспедыцыйнага корпусу.

Напэўна, другі найбольш пазнавальны палітык сярод кандыдацкага пулу для беларусаў — польскі «жырыноўскі» Януш Корвін-Міке. Ён карыстаецца іміджам самага прапуцінскага палітыка за Бугам. Корвін-Міке сапраўды часта крытыкуе Майдан і гатовы заплюшчыць вочы на анексію Крыму. Ён таксама вельмі паважае Лукашэнку за тое, што не здаў краіну Маскве, і нават называў яго ў кастрычніку мінулага года «гарантам беларускай незалежнасці». Сталыя спробы выявіць Пуціна цывілізаваным палітыкам дзіўным чынам не перашкаджаюць Корвіну-Міке абяцаць стварыць пасля перамогі моцную стотысячную армію, якая, па яго словах, будзе асновай знешняй палітыкі Рэчы Паспалітай.

Трошкі незвычайна, што асноўным кандыдатам ад вядучай кансерватыўнай партыі «Права і Справядлівасць» (PiS) выступае не яе сімвал Яраслаў Канчыньскі, а Анджэй Дуда — новая зорка правай палітыкі, які выйшаў з нетраў апарату PiS. Кансерватары выступаюць за ўзмацненне ўсходнееўрапейскай інфраструктуры NATO і нават гатовыя падтрымаць ідэю надання вайсковай дапамогі Украіне. Праўда, цалкам зразумець Анджэя Дуду часам цяжка, паколькі правыя таксама выступаюць за аўтаномію Польшчы ўнутры міжнародных структур. Плюс для патрыятычнай грамадскасці, што за іх галасуе, важна тэма бандэраўскіх злачынстваў. Таму вельмі часта палітык выдае папуліцкія супярэчлівыя заявы. Так, у лютым ён амаль сінхронна выступіў за тое, каб пасланць польскія войскі ва Украіну і супраць гэтага.

Бронза ў апытаннях у Магдалены Агурэк. Чаму і як Магдалена стала хэдлайнерам левых дэмакратаў, дасюль загадка. У любым выпадку, яна дапамагла ім узняць папулярнасць, у тым ліку таму, што яна адзіная жанчына сярод кандыдатаў. Што тычыцца ўсходняй палітыкі, то Магдалена асуджае ўчынкі Масквы ва Украіне і ў Крыме, аднак пры гэтым жадае нармалізацыі адносін з Пуціным. Магдалена на мітынгах кажа, што на месцы Камароўскага тэлефанавала б Пуціну і дамаўлялася пра мір, а не скрыгатала зубамі з-за таго, што ЗША не даюць Кіеву лятальную зброю. На яе думку, сакрэт паспяховай усходняй палітыкі ляжыць унутры Польшчы, якая мае стаць узорам для сваіх суседзяў.

Адна з сенсацый цяперашніх выбараў — з'яўленне ў топе польскага палітыкуму чалавека, які палітыкай прафесійна не займаецца і не з'яўляецца сябрам хоць нейкай партыі. Гэта Павел Кукіз — музыка і правы публіцыст. Акрамя таго, Кукіз вядомы як крытык гомасексуалістаў, «партыйных кланаў», выбарчых партыйных спісаў і, наадварот, прыхільнік мажарытарнай сістэмы выбараў. У гэтага кандыдата, якому, дарэчы, сімпатызуе каля 3–4 працэнтаў польскага электарату, цікавы погляд на геапалітыку ў нашым рэгіёне. На яго думку, Майдан быў інспіраваны Берлінам, які проста праз яго шантажаваў Маскву наконт коштаў на газ. Калі немцы дамагліся патрэбных тарыфаў, яны пакінулі ўкраінцаў на расправу Пуціну. Увогуле, ён лічыць, што Польшча была прынятая ў ЕС выключна з-за дэфіцыту на Захадзе таннай рабочай сілы. Ён рашуча выступае за ізаляцыю Польшчы адносна ўкраінскіх спраў.

Нягледзячы на тое, што польскія фермеры пакутуюць ад эмбарга Расіі, Адам Ярубас, прадстаўнік «Польскай сялянскай партыі», стаіць на дастаткова патрыятычных пазіцыях. Ён заклікае да новых баз NATO ва ўсходніх ваяводствах Польшчы. Увогуле, бяспека Польшчы — першы пункт праграмы прадстаўніка аграрыяў.

Сярод тых, хто застаўся ў кандыдацкім спісе, варта ўзгадаць хіба што Януша Палікота (лева-ліберальная партыя «Твой рух»), які мае сваю дэпутацкую групу. Палікот прапануе правесці шэраг міжнародных канферэнцый, каб дабіцца дыялогу паміж Кіевам і Масквой. Праўда, пры гэтым Палікот таксама згодны на мадэрнізацыю польскага войска.

Вось такія падыходы. Пры ўсім багацці думак і прапаноў наконт аптымальнай формулы польскай усходняй палітыкі, відавочна, што настрої большасці палякаў выказваюць Браніслаў Камароўскі і Анджэй Дуда, якія маюць зараз большыя рэйтынгі. Гэта значыць, што Польшча пасля 11 мая на ўзроўні прэзідэнцкай адміністрацыі будзе працягваць заставацца саюзніцай NATO і вядучым лабістам Кіева ў заходніх структурах. Стаўка будзе рабіцца на тое, каб прымусіць Маскву пад ціскам санкцый і дапамогі Кіеву адмовіцца ад інтэрвенцый ва ўнутраныя справы краін-суседзяў.

# Апраўдаць тырана

Алег НОВІКАЎ

**Перазахаванне цела былога англійскага караля Рычарда III Плантагенета, што адбылося 26 сакавіка, выклікала шквал спекуляцый наконт таго, ці можна рэабілітаваць тырана і забойцу.**







Цяжка знайсці ў брытанскай традыцыі фігуру больш адмоўную, чым Рычард III (1452–1485). Шмат у чым такая катэгарычная ацэнка сфармаваная славутым Вільямам Шэкспірам, які ў п'есе «Рычард Трэці» выносіць яму суровы вердыкт. У шэкспіраўскіх творах сустракаецца нават такая характарыстыка караля, як «рэінкарнацыя д'ябла».

Напэўна, падставы для такіх высноў у Вільяма былі: за гады кіравання Рычард III паспеў нарабіць шмат супярэчлівых спраў — у тым ліку задушыць сыноў-прынцаў свайго канкурэнта і адправіць на шыбеніцу без суду і следства мноства арыстакратаў. Ёсць міф, што ён быў датычны да забойства сваёй жонкі, паколькі паклаў вока на нейкую іншую жанчыну.

З улікам усяго апісанага, Рычард III, натуральна, нажыў пры жыцці нямала ворагаў, барацьба з якімі закончылася для яго трагічна. Манарх быў забіты падчас славутай бітвы з Цюдорам пры Басуорце (1485). Пасля забойства з нябожчыка адразу знялі карону і ўсё адзенне. Аголенае цела Рычарда правезлі конна на радасць натоўпу. Доўгі час лічылася, што тая «пахавальная працэсія» закончылася тым, што цела апошняга Плантагенета скінулі ў рэчку.

Праз амаль 550 гадоў былы жудасны тыран, рэшткі якога знайшлі два гады таму на адной з парковак, стаў кумірам брытанскай грамадскасці. На яго перапахаванне 26 сакавіка ў Лейстэры прысутнічала каля двух тысяч асобаў, сярод якіх былі мясцовы епіскап і ўвесь мясцовы бамонд. У гонар нябожчыка прагучаў нават вайсковы салют. Як іранізуюць на форумах: ад усяго пабачанага склалася ўражанне, што пры Басуорце перамаглі не Цюдоры, а Плантагенеты.

Ушанаванне тырана адразу выклікала палеміку на старонках брытанскай прэсы, прычым аматары рэабілітацыі Рычарда III — у яўнай большасці. Іх аргументацыя галоўным чынам будуецца на апошніх даследаваннях гісторыкаў. Як піша кансерватыўная газета «The Daily Telegraph»: «Наша гісторыя была аднабокая адносна фігуры Рычарда III». Сапраўды, гісторыкі кажуць, што спадчына апошняга Плантагенета не такая адназначная. Будучы энергічным адміністратарам, Рычард III развіваў гандаль, рэарганізаваў войска, правёў рэформу ў судаводстве, быў патронам мастацтваў.

> **26**
> **сакавіка ў Лейстэры прысутнічала каля двух тысяч асобаў, сярод якіх — епіскап і ўвесь бамонд**

У сваю чаргу, гісторыкі заклікаюць прыхільнікаў дэмакратычных каштоўнасцяў не панікаваць. Фактычна, тое, што адбылося 26 сакавіка ў Лестэры, тычыцца не Рычарда III, а яго цела. Мы маем справу з мала вывучаным феноменам, калі мёртвае цела — і так нешта сакральнае для свядомасці чалавека — у дадатак набывае нейкі капітал нябожчыка. У выніку гісторыя ведае абсалютна фантастычныя сюжэты, героямі якіх былі мёртвыя парэшткі людзей.

Для прыкладу, можна ўзгадаць фантастычную гісторыю цела французскага драматурга Жана-Батыста Мальера, які пры жыцці быў кумірам праціўнікаў манархіі. Нягледзячы на тое, што на пахаванне прыйшоў вялізарны натоўп яго фанатаў, ніхто з часам не мог узгадаць, дзе дакладна тая магіла. Праз прыкладна 100 гадоў грымнула Вялікая французская рэвалюцыя, і Канвент патрабаваў знайсці парэшткі драматурга-дэмакрата. Прадстаўнік мясцовай адміністрацыі ў адказ раскапаў на могілках два шкілеты, адзін з якіх было вырашана лічыць мальераўскім. Той шкілет спакойна ляжаў сабе каля нейкага манастыру, пакуль у 1818 годзе не былі адкрытыя могілкі Пер-Лашэз — могілкі на ўсходзе гораду. Сёння Пер-Лашэз вядомыя ўсяму свету (тут знаходзяцца рэшткі Джыма Морысана, Эдыт Піяф і г.д.) . Аднак на пачатку XIX стагоддзя гэта былі непапулярныя могілкі, для рэкламы якіх сярод парыжан сюды ў тым ліку працягнулі саркафаг з Мальерам.

У нашым выпадку фурор вакол цела Рычарда III — таксама кан'юнктурны і звязаны з яго дэманізацыяй у брытанскай афіцыйнай і кансерватыўнай гістарыяграфіі. Сярод багемы даўно стала модна скруціць дулю на адрас істэблішменту за кошт спробаў рэабілітаваць ненавіснага ім Рычарда Плантагенета. Дастаткова ўзгадаць адзін з самых славутых брытанскіх дэтэктываў «Дачка часу» (аўтар Джазэфіна Тэй), герой якіх праводзіць альтэрнатыўнае даследаванне гісторыі пра забойства братоў-прынцаў. У выніку аўтар фактычна рэабілітуе «рэінкарнацыю д'ябла». Галоўныя аргументы, якія былі прадстаўлены ў рамане для апраўдання Рычарда III: забойства пляменнікаў не прынесла Рычарду ніякай палітычнай перавагі, паколькі ён і без гэтага ўжо быў законным каралём, а маці прынцаў заставалася ў добрых адносінах з Рычардам.

З іншага боку, «чорная легенда» пра Рычарда III даўно ўжо не ўспрымаецца ў соцыуме як абсалютная ісціна. Напрыклад, у 1985 годзе адзін з брытанскіх каналаў арганізаваў шоў — суд па справе забойства прынцаў — і апраўдаў падсуднага, якога 500 гадоў лічылі вінаватым. У склад прысяжных былі запрошаны толькі тыя, чый адказ на гэта пытанне сведчыў пра іх поўную недасведчанасць у праблеме. З улікам сказанага выданне «The Times» заклікае не шукаць у рэпартажах з Лейстэра палітыку. На думку рэдакцыі, у выпадку з ушанаваннем Рычарда III праявілася ўнікальнасць Англіі, дзе ўдаецца сінтэзаваць «энтузіязм вакол гісторыі» і «сентыменталізм».

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Уладзімір Парасюк



Уладзімір — дэпутат Вярхоўнай рады Украіны, герой Майдана, які праславіўся тым, што прарваўся на сцэну і заклікаў да штурму рэзідэнцыі Януковіча. Як піша прэса, менавіта пад Парасюка будзе рабіць партыю алігарх Ігар Каламойскі, які пакінуў пасаду губернатара Днепрапятроўскай вобласці. Партыя Парасюка, быццам, выйдзе на арэну ўвосень напярэдадні мясцовых выбараў. Адначасова самога Парасюка могуць рыхтаваць да балаціроўкі ў прэзідэнты. Каламойскі, які карыстаецца адносна вялікай падтрымкай сярод часткі дэмэлектарату, на думку палітолагаў, пабаіцца выстаўляць сваю кандыдатуру. У тым ліку з-за таго, што яму на днях паслалі чорную метку — МУС Украіны зноў пачаў пошук тых, хто ледзь не збіў да смерці нейкага адваката ў 2003 годзе. Лічыцца, што тое збіццё замовіў Беня (мянушка Каламойскага). Пра тое, што на Парасюка робіцца стаўка, сведчыць і яго мегаактыўнасць апошнімі днямі. Ён намагаецца стварыць сабе імідж галоўнага крытыка Парашэнкі. Эксперты лічаць, што ў партыі Парасюка вельмі добрыя шансы стаць пераможцам на рэгіянальных выбарах, як мінімум у Заходняй Украіне. Усе вядучыя мясцовыя партыі Украіны моцна страцілі ў рэйтынгах у апошні час.

### Саледад Чапетон



34-гадовая настаўніца, сябра права-цэнтрысцкай партыі «Нацыянальнае адзінства» (UN), з Балівіі нанесла самы моцны ўдар па рэжыму Евы Маралеса з 2006 года, калі індзеец-прэзідэнт прыйшоў да ўлады. Па выніках мясцовых выбараў, Саледад стала мэрам гораду Эль-Альта — адной з электаральных цытадэляў руху да сацыялізму (MAS) — партыі Маралеса. Чапетон атрымала 55 працэнтаў ужо ў першым туры. На іншых акругах правая апазіцыя таксама паказала някепскі вынік, хаця ўсе кажуць толькі пра перамогу настаўніцы. Тое, што менавіта поспех Чапетон прыцягвае інтарэс грамадства, магчыма, звязана з тым, што новы мэр Эль-Альта паходзіць з аймараў — індзейскі народ у Андах. Менавіта індзейцы, якія складаюць большасць насельніцтва краіны, былі сімпатызантамі Маралеса і забяспечвалі яму перамогі. Праўда, нягледзячы на фіяска ў Эль-Альто, партыя Маралеса засталася вядучай партыяй краіны. MAS у першым раўндзе выйграла губернатарскія выбары ў 4-х з 9-ці рэгіёнаў. У іншых рэгіёнах пераможцу вызначыць другі тур.

### Кофі Анан



Былы генеральны сакратар ААН на старонках выдання «New York Times» заклікаў выкарыстаць юбілей ААН для рэформы гэтай структуры. Нагадаем, што ў чэрвені споўніцца 70 гадоў існаванню Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, статут якой, па словах экс-генсека, трошкі састарэў. Гэта, перш за ўсё, тычыцца права вета, якое дазваляе пяці сябрам Савету бяспекі (Вялікабрытанія, ЗША, Кітай, Расія, Францыя) блакаваць любую рэзалюцыю, прынятую на Генеральнай Асамблеі (вышэйшы орган ААН). Як лічыць Анан, шмат у чым з-за такога анахранізму «ад Нігерыі да Афганістана і Украіны паміраюць мільёны чалавек». Так, Анан лічыць, што «людзі на Поўдні не паважаюць ААН як інстытут, паколькі сябрамі Савету бяспекі з'яўляюцца выключна паўночныя краіны». Таксама, на яго думку, відавочна, што цяперашняя сістэма кансервуе несправядлівую мадэль дамінавання шэрагу краін і перашкаджае знайсці ўзаемны давер. Цяжка сказаць, якой будзе рэакцыя на заклік былога лідара ААН, паколькі дэбаты аб неабходнасці пашырэння цягнуцца ўжо на працягу дзесяцігоддзяў, аднак практычнага выніку дасюль няма. Праўда, Кофі Анан аптымістычна спадзяецца, што сябры «вялікай пяцёркі» самі зразумеюць неабходнасць адмовіцца ад сваіх правоў. Першым крокам, марыць Кофі Анан, можа быць узяты кожнай краінай абавязак не накладваць права вета на рэзалюцыю, змест якой непасрэдна або ўскосна тычыцца гэтай краіны.

# Педагог, нацыяналіст, дэлегат

**Ён быў адным з самых вядомых у Беларусі краязнаўцаў, педагогаў, вандроўнікаў, калекцыянераў, музейшчыкаў. Апантана ўлюбёным у свой родны край чалавекам. А яшчэ — шчырым беларусам, дэлегатам Устаноўчага з'езда Таварыства беларускай мовы ў Мінску.**



Сяргей ЧЫГРЫН

2 жніўня 1921 года ў вёсцы Пудзіна на Лідчыне ў сялянскай сям'і нарадзіўся хлопчык. Яго назвалі Уладзімірам, а прозвішча ён меў Урбановіч. У 1932 годзе ён скончыў пяць класаў і працаваў на гаспадарцы, займаўся самаадукацыяй. У 1938 годзе экстэрнам здаў экзамен за сямігодку і ў 1939 годзе паступіў у Жыровіцкую польскую сельскагаспадарчую гімназію Слонімскага павета.

Пры «Саветах» Уладзімір зноў здаваў экзамены за 7 класаў і паступіў у Мінскі палітэхнікум. Падчас акупацыі скончыў настаўніцкія курсы ў Навагрудку, пасля якіх працаваў настаўнікам у пачатковых класах у Лідзе і ў вёсцы Біскупцы на Лідчыне. Пасля вайны завочна скончыў Лідскую педагагічную вучэльню і літаратурны факультэт Гродзенскага пединстытута. А калі скончыў педынстытут, то ўладкаваўся настаўнікам роднай мовы і літаратуры ў Райцаўскую сярэднюю школу Карэліцкага раёна, а з 1959 года — працаваў у Валеўскай сярэдняй школе Навагрудскага раёна.

Няпроста жылося і працавалася Уладзіміру Урбановічу ў вёсцы Валеўка Навагрудскага раёна. За вочы яго называліся нацыяналістам. Такое кляймо яму прычапілі ці то ад зайздрасці, ці то ад таго, што гэты чалавек быў значна адукаванейшы за іншых, ад Бога таленавіты і шчыры. Ён, ці не адзін з першых у тыя пасляваенныя гады, напісаў і выдаў у Беларусі краязнаўчую кнігу «Па дарагіх мясцінах» (Мн., 1964), дзе дзяліўся вопытам краязнаўчай работы па беларускай літаратуры ў сваёй Валеўскай сярэдняй школе.

Настаўнік Уладзімір Урбановіч у той час паказаў і апісаў, як трэба выкарыстоўваць краязнаўчы матэрыял на ўроках. Вывучаючы жыццё і творчасць беларускіх пісьменнікаў, а таксама пісьменнікаў-землякоў, ён з вучнямі на веласіпедах і пяшком абышоў, аб'ехаў, і зноў жа апісаў тыя мясціны, дзе нарадзіліся пісьменнікі, творчасць якіх вывучалі ў школе. Настаўнік-краязнавец са школьнікамі наведаў мясціны Адама Міцкевіча, Якуба Коласа, Кузьмы Чорнага, Цішкі Гартнага, літаратурныя Баранавічыну, Дзятлаўшчыну, Навагрудчыну, Стаўбцоўшчыну, Слонімшчыну і Уздзеншчыну, збіраючы новыя звесткі пра творчасць беларускіх літаратараў, запісваючы не толькі ўспаміны сваякоў, але і займаўся зборам вуснай народнай творчасці.

У Валеўскай сярэдняй школе краязнаўчы музей быў створаны яшчэ ў 1955 годзе. У ім былі гісторыка-этнаграфічны і аддзел прыроды. Калі ў школу прыехаў на працу Уладзімір Урбановіч, то ён дапоўніў музей літаратурным аддзелам. Уладзімір Аляксандравіч па ўсім свеце збіраў для музея розныя экспанаты. Ужо ў 1980 годзе ў Валеўскім народным краязнаўчым музеі налічвалася 1895 экспанатаў, з іх 978 — арыгінальных. Тады ў музеі былі каштоўныя рэчы, звязаныя з «Хронікай Быхаўца», з гісторыяй Любчанскай друкарні, матэрыялы пра Кастуся Каліноўскага, Францішка Багушэвіча, Цёткі, кнігі, паштоўкі, выдадзеныя суполкай «Загляне сонца і ў наша ваконца», друкарнямі Марціна Кухты і «Нашай нівы». Шырока была прадстаўлена заходнебеларуская літаратура, а таксама газеты і часопісы таго часу, фотаздымкі беларускіх літаратараў, каштоўныя дакументы.

У 1970 годзе Уладзімір Урбановіч выдаў сваю чарговую кнігу «Шляхамі паэтаў і герояў». Гэта было дапоўненае выданне, дзе аўтар цікава расказваў пра школьны літаратурны гурток, пра музей, апісаў паходы вучняў па мясцінах, звязаных з жыццём і творчасцю пісьменнікаў і герояў беларускага народа, аўтар дзяліўся шматгадовым вопытам выкарыстання краязнаўчага матэрыялу на ўроках беларускай літаратуры. Калі першай кнігі наклад быў 2700 асобнікаў, то «Шляхамі паэтаў і герояў» — ажно 10 тысяч. І першая, і другая кнігі Урбановіча былі даволі папулярнымі, найперш сярод настаўнікаў. Іх раскупілі імгненна. У беларускім друку на кнігі з'явіўся шэраг станоўчых рэцэнзій Аляксея Пяткевіча, Рыгора Шкрабы, Янкі Саламевіча, Уладзіміра Калесніка, Веры Ляшук, Сцяпана Александровіча. Напрыклад, Сцяпан Александровіч у часопісе «Полымя» ў ліпені 1971 года паведамляў: «Самае цікавае і патрэбнае ў кнізе «Шляхамі паэтаў і герояў» — гэта той багаты фактычны матэрыял, які могуць шырока выкарыстоўваць настаўнікі Беларусі, і ў першую чаргу Гродзеншчыны».



**Ужо пасля смерці, 2 лютага 1999 года, Уладзіміра Урбановіча пасмяротна занеслі ў Кнігу Славы Навагрудскага раёна**



**У паходзе са школьнікамі, 1970-я гады**



**Уладзімір Урбановіч з пісьменнікамі Максімам Танкам, Янкам Брылём, Барысам Сачанкам, Анатолем Вялюгіным, Петрусём Макалём, Анатолем Кудраўцом і іншымі на ганку валеўскай школы**

Але гэтыя кнігі прынеслі Уладзіміру Урбановічу і шмат клопатаў. У пісьме да свайго лепшага сябра Міхася Петрыкевіча (1913–1999), які апошнія гады жыцця жыў у Вільні, пісаў, што яго абвінавачваюць у нацыяналізме і не раз выклікалі ў КДБ. Міхась Петрыкевіч 27 красавіка 1987 адказаў: «Чытаў твае кніжкі, маю іх з сабою цяпер і магу смела сказаць, што ніякага нацыяналізму там няма. Ёсць пачуццё любові да роднага краю, да роднай культуры, традыцый, прыроды, пашаны да людзей нашага краю. Дык хіба ж гэта дрэнна? Добра ведаю, што краязнаўства цяпер развіваецца, падтрымліваецца Міністэрствам асветы, культуры і другімі органамі ўлады. Гэта ярка відаць у Літоўскай рэспубліцы. Любоў да роднага краю дапамагае вырашыць важную дзяржаўную праблему — замацаванне кадраў, рабочых рук у сельскай гаспадарцы. Не менш важныя і другія аспекты краязнаўчай работы... Не ведаю, праз якія акуляры тыя твае субяседнікі разглядалі твае кнігі. А можа яны і не чыталі, а хто-небудзь з зайздрасці даў ім адмоўную рэцэнзію. І гэта можа быць. Разумеецца, з гэтай закваскі, як кажуць, піва не зварыш, але нервы папсаваць можна. Спачуваю табе, ведаю, як цяжка сёе-тое гэта перажыць. Тут можна сказаць словамі Янкі Купалы: «Чаго вам хочацца, панове, які вас выклікаў прымус?..»

Сапраўды, пасля выхаду другой кнігі Уладзіміру Урбановічу выдаць больш кніг да самай смерці так і не ўдалося. Хаця ён напісаў сотні артыкулаў, нарысаў, даследаванняў, рэцэнзій і апублікаваў у газетах і часопісах, навуковых і папулярных выданнях. Пісаў пра мясціны і лёсы пісьменнікаў, выкладанне беларускай літаратуры ў школе, арганізацыю ў ёй навучальнага працэсу, пра друк Беларусі, беларускі фальклор, людзей культуры.

З 1958 года Уладзімір Урбановіч чытаў лекцыі па методыцы літаратурнага краязнаўства на абласных і рэспубліканскіх курсах павышэння кваліфікацыі настаўнікаў. Ён быў сябрам рэспубліканскага журы па ацэнцы школьных падручнікаў, рэцэнзаваў падручнікі па беларускай літаратуры, з'яўляўся дэлегатам Устаноўчага з'езда Таварыства беларускай мовы.

У мяне, а таксама ў роднай пляменніцы Уладзіміра Урбановіча, бо сваіх дзяцей ён не меў, захоўваецца шмат публікацый, артыкулаў, рукапісаў педагога і краязнаўцы з Навагрудчыны. Гэта грунтоўныя даследаванні пра Адама Міцкевіча і Беларусь, у тым ліку і Навагрудчыну, пра старажытнае пісьменства і кнігадрукаванне на Навагрудчыне, пра Ігната Дамейку і сувязь Якуба Коласа і Янкі Купалы з Навагрудчынай і Лідчынай, пра Янку Нёманскага і Марылю Верашчаку, пра паўстанне 1863 года на Лідчыне і г.д.Назбіраюцца дзясяткі артыкулаў-даследаванняў, якія сёння склалі б не адну дыхтоўную гісторыка-краязнаўчую і літаратуразнаўчую кнігу Уладзіміра Урбановіча, а таксама асобнае выданне пра Адама Міцкевіча, пра якога ён ведаў шмат.

У «Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі» ёсць невялікая згадка пра Уладзіміра Урбановіча, дзе напісана, што ён з'яўляецца і аўтарам шэрагу артыкулаў па методыцы выкладання беларускай літаратуры, арганізацыі навучальнага працэсу, спалучэння школьных і пазашкольных заняткаў. Пра краязнаўства ў выкладанні беларускай літаратуры ў старэйшых класах, ролю краязнаўчага матэрыялу ў патрыятычным выхаванні вучняў, краязнаўства на службе ў настаўнікаў рускай і беларускай моваў, эстэтычнае выхаванне ў паходах па роднаму краю. А таксама пра дзясяткі іншых распацаваных настаўнікам-краязнаўцам Урбановічам тэмаў, якія не састарэлі і сёння, іх смела можна прымяняць у школах, гімназіях і ліцэях.

У 1965 годзе Міністэрства адукацыі БССР зацвердзіла праграму настаўніка з Валеўкі, якая называлася «Праграма літаратурна-краязнаўчых гурткоў для васьмігадовых і сярэдніх школ і пазашкольных дзіцячых устаноў».

Да Урбановіча звярталіся па дапамогу і параду навукоўцы, выкладчыкі вышэйшых навучальных устаноў, педагогі, архівісты і літаратуразнаўцы з усёй Беларусі, а таксама з Літвы, Польшчы, Украіны. Ён вёў багатую перапіску, тысячы пісем ад вялікіх людзей, на жаль, згубіліся, але і шмат захавалася ў беларускіх архівах і музеях, у прыватных сховішчах. Уладзімір Урбановіч сябраваў амаль з усімі дзеячамі беларускай культуры і пісьменнікамі. У яго доме і ў школе ў Валеўцы шмат разоў пабывалі Максім Танк, Уладзімір Караткевіч, Янка Брыль, Генадзь Каханоўскі, Уладзімір Калеснік, Ігар Лучанок, Аляксей Карпюк, Барыс Сачанка, Анатоль Вярцінскі, Пятрусь Макаль, Фёдар Янкоўскі, Ян Скрыган, сваякі Якуба Коласа і Адама Міцкевіча і сотні іншых вядомых нам асобаў. Ён заўсёды знаёміў гасцей з Валеўкай, школьным музеем і, вядома ж, адвозіў іх на Свіцязь, дзе вяліся шчырыя гутаркі пра Беларусь, родную мову і культуру...

За сваю педагагічную і краязнаўчую дзейнасць Уладзімір Урбановіч быў узнагароджаны рознымі граматамі і дыпломамі, а таксама значком «Выдатнік народнай асветы». Ужо пасля смерці, 2 лютага 1999 года, яго пасмяротна занеслі ў Кнігу Славы Навагрудскага раёна.


Бронецягнік «Смелы»


Гітлер аглядае падбіты польскі бронецягнік


Бронецягнік «Барташ Главацкі»

# Тры вайны двух бронецягнікоў


Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Адным з галоўных відаў зброі міжваеннага Войска Польскага з'яўляліся браніраваныя цягнікі. Польскае войска мела некалькі дзясяткаў «сухапутных браняносцаў», якія дапамаглі жаўнерам Юзафа Пілсудскага перамагчы бальшавікоў, а пазней адстойваць заходнія межы Другой Рэчы Паспалітай. Большасць з гэтых бронецягнікоў дацягнула да Другой сусветнай вайны.**

## Народзіны легенды

Падчас савецкага наступлення ў ліпені 1920 года Войска Польскае сярод іншага страціла некалькі бронецягнікоў. Варшава разумела, што гэтыя страты могуць прывесці да паразы ў вайне. Хутка быў выдадзены загад аб будаўніцтве 6 новых «сухапутных браняносцаў», сярод якіх быў і «PP 20» (pociąg pancerny), пабудаваны ў Кракаве ў жніўні 1920 года. Аднак усе ведалі цягнік пад назвай «Барташ Главацкі» (селянін, удзельнік Паўстання Тадэвуша Касцюшкі, які адзначыўся ў бітве пад Рацлавіцамі). Першым камандзірам бронецягніка быў паручнік Станіслаў Пігонь (будучы прафесар Віленскага ўніверсітэта).

Першапачаткова цягнік складаўся з двух крытых артылерыйскіх вагонаў (у якіх знаходзілася па адной 76-міліметровай гармаце), адкрытай артылерыйскай пляцоўкі (на якой ставілася звычайная гармата), вагонаў, узброеных кулямётамі, і браніраванага лакаматыву. Крытыя вагоны былі зроблены з былых нямецкіх таварнякоў, на якіх, акрамя дадатковых лістоў брані, была пастаўлена вежа, што мела вугал абстрэлу 360 градусаў. У верасні 1920 года экіпаж бронецягніка складаўся з 8 афіцэраў, 37 малодшых камандзіраў і 97 радавых.

Хутка цягнік перадалі ў распараджэнне 15-й пяхотнай дывізіі. «Дваццатка» дзейнічала на лініі Чарэмха — Брэст-Літоўскі, а пазней ля Гайнаўкі. 19 верасня дзве гарматы цягніка былі знішчаны, а праз дзень, падчас баёў за Свіслач, не стала і трэцяй. Экіпаж бронецягніка вымушаны быў паставіць на платформы звычайныя палявыя гарматы і весці баі з іх дапамогай. Пазней была бітва на Нёмане, дзе «Главацкі» ўдзельнічаў у атацы на Ваўкавыск. У гэты час цягнік складаўся з 6 броневагонаў, на якіх было 2 палявыя гарматы і 10 кулямётаў. У кастрычніку 1920 года «Дваццатка» знаходзілася ў Седлецах, а пазней, да лета 1921 года, у Лідзе.

## Мадэрнізацыя

Калі ў 1919 годзе палякі рыхтаваліся да вайны з усходнім суседам, яны рабілі стаўку на выкарыстанне менавіта старых рускіх вагонаў, якія мелі колы для руху па чыгуначным палатне шырынёй 1524 мм. Аднак пазней вайна прыйшла на польскія землі, і пра «шырокія» вагоны забылі. У пачатку 1920-х пра былыя «рускія» вагоны зноў узгадалі, і частка іх была выкарыстана для мадэрнізацыі «Барташа Главацкага». Безумоўна, колавыя пары да іх рабілі еўрапейскага стандарту.

У 1922–1923 гадах бронецягнік выкарысталі для супакойвання антыпольскіх выступленняў на тэрыторыі Горнай Сілезіі. Вясной 1925 года цягнік атрымаў новы нумар «10» і быў залічаны ў склад Пятага дывізіёну бронецягнікоў у Кракаве. У гэты час «стальная крэпасць» складалася з аднаго артылерыйскага вагона і аднаго вагона з двума вежамі, пабудаванага на заводзе «Чырвонае Сормава» ў Ніжнім Ноўгарадзе і захопленага падчас вайны 1920 года. Узбраенне складалася з двух 76-міліметровых гармат і кулямётаў. У 1929 годзе была праведзена чарговая мадэрнізацыя бронецягніка. У 1930-х гадах «Барташ Главацкі» складаўся з трох артылерыйскіх вагонаў, два з якіх былі ўзброены 75-міліметровымі гарматамі, а адзін — гаўбіцай 100 міліметраў. Тады ж да вагонаў дабудавалі вежы з зенітнымі кулямётамі і абсталявалі цягнік сучаснай радыёсувяззю. У гэты час «сталёвая крэпасць» была ў складзе 2-га дывізіёна бронецягнікоў у Кракаве — Непаламіцах.

## Абаронца Брэсцкай крэпасці

У жніўні 1939 года цягнік атрымаў новы нумар — 55 і быў першапачаткова перададзены ў распараджэнне аператыўнай групы «Вышкаў», а пазней арміі «Прусы». У гэты час у яго склад быў залічаны ўзвод бронедрызін, на якіх размяшчаліся лёгкія танкеткі «TKS» і танкі «Рэно ФТ–17». Камандзірам экіпажу бронецягніка быў капітан Анджэй Падгурскі.

На першым этапе Вераснёўскай кампаніі 1939 года бронецягнік выкарыстоўваўся для патрулявання чыгуначных шляхоў. Увесь гэты час «сухапутны браняносец» не ўдзельнічаў у адкрытых баях з вермахтам, а толькі змагаўся з нямецкай авіяцыяй. Разам з «Барташам Главацкім» дзейнічаў бронецягнік «Смелы», пра які гутарка пойдзе ніжэй. 11 верасня 1939 года 55-ты апынуўся ў Лукаве, дзе ўзяў «на борт» 40-міліметровую супрацьпаветраную гармату «Бафорс». Пазней «Барташ Главацкі» быў накіраваны ў раён Брэста над Бугам.

Там, як вядома, падраздзяленні Войска Польскага рыхтаваліся да абароны Брэсцкай крэпасці. 14 верасня камандзір цягніка атрымаў загад рухацца ў бок Жабінкі і знішчыць там дэсант 3-й танкавай дывізіі вермахта. Ля моста на Мухаўцы ад цягніка былі адчэплены тры бронедрызіны, з якіх з'ехала некалькі танкетак «TKS». Хутка ўсе гэтыя машыны былі знішчаныя нямецкімі артылерыстамі. Бронецягнік адкрыў агонь з гармат і прымусіў нацыстаў адступіць. Пазней «Главацкі» знішчыў групу нямецкіх матацыклістаў, якія рухаліся з боку Камянца. Артылерысты з 75-га палка вермахта пачалі абстрэл «сталёвай крэпасці». Бой працягваўся каля гадзіны, пасля чаго бронецягнік вымушаны быў адысці ў Брэст. На месцы бітвы палякі пакінулі знішчаную бронедрызіну з танкам «Рэно ФТ–17».

Хутка капітан Анджэй Падгурскі атрымаў кепскую навіну: «Вакзал у Брэсце захоплены». «55-ты» накіраваўся ў Ковель, а пазней на Луцк. 18 верасня камандзір цягніка вырашыў ісці на Львоў. 19 верасня «Барташ Главацкі» ўдзельнічаў у атацы польскай пяхоты на наступаючых на горад немцаў, аднак падчас бою быў моцна пашкоджаны нямецкай артылерыяй. 22 верасня ў Львоў увайшла Чырвоная Армія, якая і захапіла бронецягнік.

Былы «Барташ Главацкі» быў залічаны ў склад 58-га палка ўнутраных войскаў НКУС. Пасля нападу Германіі на Савецкі Саюз цягнік зноў удзельнічаў у баявых дзеяннях супраць немцаў. На перагоне Баранавічы — Пагарэльцы ён атакаваў калону нямецкіх танкаў, аднак агнём у

**Пасля ўваходу Чырвонай Арміі ў горад абодва бронецягнікі сталі яе трафеямі. Лёс камандзіра бронецягніка, капітана Мечыслава Маліноўскага, не вядомы**

адказ быў моцна пашкоджаны і страціў ход. Так скончылася гісторыя бронецягніка, які прыняў удзел у трох войнах.

## Польскі трафей

Іншы польскі бронецягнік, які прымаў удзел у абароне Брэсцкай крэпасці ў верасні 1939 года, меў нумар «53». Яго гісторыя пачынаецца ў 1918 годзе, калі палякі здабылі пад Кракавам браніраваны цягнік аўстра-венгерскага войска. Ён складаўся з двух браніраваных лакаматываў, двух артылерыйскіх вагонаў, узброеных 70-міліметровымі гарматамі і 3 кулямётамі, а таксама 2 вагонамі, узброенымі кулямётамі. Хутка быў сфарміраваны экіпаж бронецягніка, які ўзначаліў капітан Людвіг Хіцкевіч. Ужо ў лістападзе 1918 года «сталёвая крэпасць» удзельнічала ў баявых дзеяннях супраць украінцаў ля Перамышля і Львова.

26 лістапада цягнік быў падзелены на дзве часткі. Так было створана два бронецягнікі, «Пілсудчык» і «Смелы». У красавіку другі з іх прымаў удзел у баявых дзеяннях супраць бальшавікоў на тэрыторыі Беларусі. Падчас баявых дзеянняў «Смелы» быў значна пашкоджаны, аднак пасля рамонту вярнуўся на фронт і ўдзельнічаў у баявых дзеяннях супраць Чырвонай Арміі.

Пазней бронецягнік быў значна мадэрнізаваны. Яго ўзбраенне складалася з 4 гармат буйных калібраў, дзвюх гармат у танкавых вежах, 15 кулямётаў. Да броневагонаў дадаваліся лакаматыў і некалькіх вагонаў. У жніўні 1939 года цягнік атрымаў новую нумарацыю — 53. Яго камандзірам быў прызначаны беларус, капітан Мечыслаў Маліноўскі. У першыя дні вайны «сталёвая крэпасць» знаходзілася ў раёне мястэчка Семкавіцы. Ён атрымаў загад рухацца ў бок вёскі Мокрая, дзе пачыналася жорсткая бітва паміж нямецкай 4-й танкавай дывізіяй і часткамі Валынскай брыгады кавалерыі Войска Польскага. «Смеламу» ўдалося адбіць нямецкую атаку. Хутка бронецягнік атакавалі самалёты Люфтвафэ, а за імі на полі з'явілася 70 варожых танкаў.

Ад прамых трапленняў снарадаў, выпушчаных з гаўбіц «Смелага», з некалькіх «панцэркампфвагенаў» сарвала вежы. Над полем разнеслася гучнае: «Zurück» (ням. — «назад»). Але і «Смелы» вымушаны быў адступіць. На станцыі Рэмбеліцы — Ізбіска цягнік напароўся на падраздзяленні мотапяхоты вермахта. Мечыслаў Маліноўскі вымушаны быў кінуць у бой сваіх пяхотнікаў, якія ехалі ў адным з вагонаў. Не вядома, як бы скончыўся бой, калі б на гэтым участку не з'явіўся бронецягнік № 52. Гэта дазволіла «Смеламу» прарвацца ў Дзялошын. 2 верасня «53-ці» атрымаў загад патруляваць участак Семкавіцы — Чэнстахова. У гэты час цягнік некалькі разоў уступаў у бой з нямецкімі танкамі. З 6 верасня «Смелы» дзейнічаў разам з «Барташам Главацкім».

Пазней абодва цягнікі вымушаны былі адступіць у бок Мінска Мазавецкага. 12 верасня бронецягнік атрымаў загад рухацца ў бок Брэсцкай крэпасці. 14 верасня ля станцыі Скокі «53-ці» падтрымаў агнём пяхоту КАП, якая вяла бой з падраздзяленнем вермахта. Як адзначалася вышэй, вярнуцца ў Брэст «Смелы» і «Барташ Главацкі» не змаглі і вымушаны былі накіравацца ў Заходнюю Украіну. 18 верасня цягнікі ўдзельнічалі ў баях з немцамі на подступах да Львова.

Пасля ўваходу Чырвонай Арміі ў горад абодва бронецягнікі сталі яе трафеямі. Лёс камандзіра бронецягніка, капітана Мечыслава Маліноўскага, не вядомы. А вось «Смелы» быў перададзены 75-му палку ўнутраных войскаў НКУС і ў чэрвені 1941-га ўдзельнічаў у баях з вермахтам, аднак апынуўся ў атачэнні і быў падарваны экіпажам. Немцы адрамантавалі «Смелага», і яго вагоны ўвайшлі ў склад нямецкага Kampfzug A. Вясной 1944 года савецкая армія канчаткова знішчыла «польска-савецка-нямецкі» бронецягнік.



Туга страчанага сусвету



Дзядзька Рыгор-летуценнік

# «Будаўніцтва чалавека» Уладзіміра Вішнеўскага

Марат ГАРАВЫ

**У Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва адкрылася выстава «Будаўніцтва чалавека» з нагоды 60-годдзя з дня народзінаў і 40-годдзя творчай дзейнасці мастака Уладзіміра Вішнеўскага — аднаго з найлепшых у краіне майстроў кніжнай графікі.**

У экспазіцыі — творы выяўленчага мастацтва ў розных тэхніках і матэрыялах, прысвечаныя выбітным постацям і падзеям айчыннай гісторыі, а таксама праблеме дуалізму чалавека, які з часоў Адама і Евы разрываецца паміж духоўным і матэрыяльным.

Як зазначыў старшыня Беларускага саюза мастакоў Рыгор Сітніца, ягоны сябра, ураджэнец Случчыны Уладзімір Вішнеўскі — адзін з гадаванцаў Рэспубліканскай школы-інтэрната па музыцы і выяўленчаму мастацтву — той цёплай, мілай і ўтульнай школкі, што дала не толькі Бацькаўшчыне, але і сусвету дзясяткі выбітных майстроў мастацтва, якія бudaвалі і зараз дабудоўваюць нацыю. «Як грамадзянін, мастак і настаўнік Уладзімір Вішнеўскі ніколі не збочваў з гэтага магістральнага светабачання і перадаў яго сваім шматлікім вучням з Беларускай акадэміі мастацтва, дзе майстра адпрацаваў 30 гадоў. Будзем спадзявацца, што ягоныя выхаванцы таксама не збочаць з гэтага шляху, а будуць абапірацца на тыя традыцыйныя каштоўнасці, якія ўласцівыя кожнай нацыі», — падкрэсліў старшыня БСМ.

Калегі Уладзіміра Вішнеўскага адзначалі, што нечаканая, узнёслая і незвычайна праніклівая творчасць майстра нікога не пакідае абыякавым, называлі мастака знакавай асобай сучаснага беларускага выяўленчага мастацтва, якая вельмі абвострана ўспрымае жыццё і стварае адпаведны творчы асяродак, што захапляе сучаснае пакаленне мастакоў.

**Выстава працуе да 16 красавіка.**

# Лятучая, гаручая, празрыстая…

## Самагонка ў нашай гісторыі

**У выставачнай зале філіяла Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь «Музей гісторыі беларускага кіно» 1 красавіка адбылося афіцыйнае адкрыццё выставы, прымеркаванай да Міжнароднага Дня смеху, «Лятучая, гаручая, празрыстая: Гісторыя промыслу і барацьбы з ім у Беларусі», якая падрыхтавана сумесна з РГА «Беларускі саюз дызайнераў».**




Традыцыя самагонаварэння ў Беларусі вядома з XV стагоддзя. Самагонка ў гісторыі нашай краіны станавілася як чыннікам гаспадарчага росту, так і сапраўдным бічом на шляху развіцця грамадства. Выраб гарэлкі кантраляваўся дзяржавай, а часамі станавіўся несанкцыянаваным. Апошні перыяд росту несанкцыянаванага вырабу звязаны з 1939 годам і аб'яднаннем тэрыторыі Беларусі ў яе сучасных межах. Час ваеннага ліхалецця, частай змены ўлады прымушаў насельніцтва шукаць стабільную «валюту» для ўзаемных разлікаў. Самагонаварэнне залежала ў першую чаргу ад наяўнасці жыта ў сялян, таму спачатку істотна распаўсюдзілася ў Заходняй Беларусі, не абцяжаранай калгасным ладам.

У найноўшай гісторыі самагонаварэнне стала аб'ектам пераследу з боку дзяржавы. З дапамогай пяра, пэндзля і слова з гэтай з'явай змагалася сатыра і наглядная агітацыя.

Сёння самагонка — частка нацыянальнай нематэрыяльнай культурнай спадчыны; як і беларуская кухня, яна вызначае рэгіянальную адметнасць, раскрывае турыстычны патэнцыял краіны. У якасці дэманстрацыі самагону як культурнай спадчыны яго прапануюць сёння шматлікім турыстам, наведвальнікам аграсядзібаў, культурніцкіх запаведнікаў, музейных комплексаў.

Экспазіцыя выставы прэзентуе ўзоры самагонных апаратаў, атрыбуты, якія суправаджалі сам працэс самагонаварэння. Значную частку экспанатаў складаюць узоры савецкіх плакатаў антыалкагольнай накіраванасці. Жанр сатыры, які выкрываў сацыяльныя стэрэатыпы, звязаныя з п'янствам, сёння ўжо з'яўляецца гісторыяй. Сатырычная графіка на гэтую тэму па асабліваму выяўляе творчасць такіх вядомых беларускіх мастакоў, як Барыс Забораў, Мікалай Гурло, Леанард Чурко, Аскольд Чуркін, Яўген Бусел і інш. Грамадзянская лірыка, якую стваралі да плакатаў, належыць не менш вядомым беларускім аўтарам-літаратарам, Рыгору Барадуліну, Генадзю Кляўко, Івану Стадольніку. Плакаты пазнейшага перыяду належаць аўтарству Уладзіміра Крукоўскага, Уладзіміра Цэслера, Сяргея Войчанкі, Дзмітрыя Маслія і іншых.

Наведвальнікам выставы прапануюцца відэагіды, якія раскрываюць цікавыя старонкі з гісторыі самагонаварэння. З культуралагічнага пункту гледжання асаблівасці культуры спажывання алкаголю ў беларусаў разглядае доктар філасофіі Ірына Дубянецкая. Агляд гісторыі самагонаварэння, яго ролю ў сістэме гаспадаркі, цікавыя архіўныя спасылкі прапануе доктар гістарычных навук Валянцін Голубеў.

Партнёрам праекту выступіў музейны комплекс «Дудуткі», які адраджае старадаўнія тэхналогіі і рэцэпты, у якасці дэманстрацыі культурнай спадчыны ў межах выставы ладзіць дэгустацыі.

Музей гісторыі беларускага кіно. Адрас: г. Мінск, вул. Свярдлова, 4. Кожны дзень (акрамя панядзелка) з 10.00 да 19.00. Тэл. для даведак: 327 10 75; 029 627 10 75.



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.info

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
**Кароль Аляксей Сцяпанавіч**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81
novychas@gmail.com; novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 442

Падпісана да друку 03. 04.2015. 8.00.
Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.